# У філіі „МАЛАДНЯКА“

## Гурткі па акрузе.

Маецца пры філіі тры літаратурныя гурткі: Клімавіцкі (г. Клімавічы, АК. КПБ. Рэдакцыя «Н. Пр.»), Мсьціслаўскі (Мсьціслаў, Пэдтэхнікум, кіруе — Я. Міхневіч), і Хоцімскі (Хоцімск, 1 бел. сямілетка, кіруе — Н. Чубакоў). Распачата праца па організацыі чацьвёртага гуртка пры Самацеевіцкай сямілетцы (Касьцюковіцкі раён).

Жадаючыя наступіць у «Маладняк» могуць падаваць заявы ў бюро гурткоў (да якога гуртка бліжэй). Бюро разгледзіць, вынясе сваё заключэньне і перашле прэзыдыуму філіі.

## Выдавецкая частка.

1. Выдаецца філіяй часопіс «Маладняк Калінінішчыны».

2. Пры гуртках выдаюцца рукапісныя часопісі (у Мсьціслаўскім і Хоцімскім).

3. У «Маладым Комунісьце» штотыдня настаянны куток для друку вершаў.

## Новы склад прэзыдыуму.

З прычыны выбыцьця А. Аніхоўскага, А. Пякарчыка, А. Карачуна, прэзыдыум філіі складаецца з трох асоб: Падабед Язэп, Пятро Юргялевіч і Сымон Музыка.

Адрэс прэзыдыуму філіі:
**Клімавічы, АК. КП(б)Б, філіі «Маладняка».**

Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# МАЛАДНЯК КАЛІНІНШЧЫНЫ

орган АК ЛКСМБ і Філіі „Маладняка“

ПАД РЭДАКЦЫЯЙ:
**Фэлікса Купцэвіча, Пятро Юргялевіча, Сымона Дакучыца і Падабеда Язэпа.**

## № 5-6.

Выданьне Філіі «Маладняка».
г. Клімавічы, 1926 г.



Сымон Дакучыц.

## АБ ПАРТЫИНА-ПРОЛЕТАРСКІМ КІРАЎНІЦТВЕ Ў КОМСАМОЛЕ.

**Барацьба за моладзь, адпаведнае яе выхаваньне, захоўваньне прыёмственасьці і вопыту соцыялістычнае Рэволюцыі, прыстасаваньне к вялікім пабудоўча-організацыйным задачам дню, пры захоўваньні і ўзмацненьні правільнага кіраўніцтва падкрэсьліваюцца, такім чынам, як галоўныя асаблівасьці перажываемага пэрыяду.**

(З пастаноў 14-га Партзьезду).

За апошнія гады Ленінскі Комсамол перажывае нязвычайна багатую па сваім зьместу паласу разьвіцьця; багатую ў тым сэнсе, што Комсамолу даводзіцца працаваць пры ўмовах вялізарнага росту актыўнасьці рабоча-сялянскае моладзі і вялізарнага ня спыняючагася росту сваіх шэрагаў.

Зразумела, што гэты пералом у жыцьці комсамолу утварыўся не ізаліравана ад таго агульнага ўздыму палітычнае актыўнасьці ўсіх колаў насельніцтва СССР а ў цеснай сувязі з ім, на аднэй падставе—на падставе гаспадарчага росту нашае старонкі, паляпшэньня матар'яльнага жыцьця працоўных і узмацненьня СССР, у міжнародным масштабе. Рабоча-сялянская моладзь, зьяўляючыся неразрыўнай часткай працоўных, таксама імкнулася і імкнецца прымаць удзел у грамадзкім жыцьці старонкі, на сваім прадпрыемстве, у вёсцы і г. д. Моладзь таксама імкнецца вучыцца, організавацца, альбо ў КСМ, альбо тыя ці інш. культурныя, с. г. гурткі, імкнецца палепшыць сваё матар'яльнае становішча. Вось тыя галоўныя элемэнты актыўнасьці моладзі, з якімі трэба было лічыцца Комсамолу.

Такім чынам, Комсамол стаў перад неабходнасьцю скарыстаць гэту актыўнасьць і праз Комсамол накіраваць яе па ўлоньню удзелу моладзі ў соцыялістычным будаўніцтве, каб гэта было ў інтэрэсах Партыі, рабочае клясы і нашае старонкі.

Як Комсамол справіўся і спраўляецца з гэтай задачай? Аб гэтым яскрава сьведчыць: 1) тое, што ён уцягнуў у свае шэрагі два з лішнім мільёны рабочых і сялян, 2) што значна ўзрасла роля Комсамолу ў грамадзка-палітычным жыцьці старонкі, і 3) што Комсамол на справе стаў рэзэрвам і дапамочнікам Комуністычнае Партыі.

Але ўсё гэта разам утварыла шэраг новых цяжкасьцяў у працы і высунула шэраг новых задач. Гэтыя цяжкасьці цалкам выцякаюць з росту Комсамолу, бо ў выніку росту, яго соцыяльны склад зьмяніўся ў бок павялічэньня ў ім сялянскае моладзі, якая ўступаючы ў КСМ часта адбівае, зразумела, настроі і псыхолёгію сялянства, з другога боку, якасная апрацоўка ўступаючых у К.С.М. непасьпявае за колькасным узростам шэрагаў Комсамолу. Такім чынам утвараецца небясьпека згубіць пролетарскую чыстату і сутнасьць організацыі і магчымасьць разрыву

паміж рабочай і сялянскай часткай комсамолу пры умовах, калі-б мы сталі адказвацца ад кіраўніцтва гэтай актыўнасьцю і калі нязможам выхаваць належным чынам масы сялянскае моладзі.

Выходзячы з гэтага, перад Комсамолам паўстала задача—партыйна-пролетарскага кіраўніцтва, як асноўная задача, забясьпечываючая пролетарскую сутнасьць організацыі, моцнасьць і адзінства яе шэрагаў і правіловае выхаваньне падрастаючага пакаленьня. Аб гэтым яскрава адзначыла ў сваіх пастановах 4-ая Усесаюзная конфэрэнцыя, дзе гаворыцца: „што агромны рост Саюзу за лік сялянства, неаднальковасьць яго клясавага складу, задача ўзмацненьня комуністычнага выхаваньня і ўцягненьня ў соцыялістычнае будаўніцтва шырокіх мас комсамольцаў і ўсёй рабочай і сялянскай моладзі, ставіць перад Партыяй і ЛКСМ ва ўвесь рост пытаньне аб узмацненьні і паляпшэньні парткіраўніцтва комсамолам і забясьпечаньні пролетарскага уплыву на яго сялянскую частку“.

Якімі-ж шляхамі павінна ажыцьцяўляцца партыйнае і пролетарскае кіраўніцтва ў організацыі? 4-я Усесаюзная конфэрэнцыя, таксама дае на гэта яскравы адказ:

„Што пролетарскае кіраўніцтва ў Саюзе забясьпечваецца не застанаўленьнем цьвёрдых працэнтных суадносін паміж рознымі соцыяльнымі групамі ў Комсамоле, а правіловай політычнай лініяй, вядучай к узмацненьню рабоча-сялянскага адзінства ў комсамольскіх шэрагах пад кіраўніцтвам пролетарскае часткі саюзу, моцнасьцю і партыйнай вытрыманасьцю комсамольскага актыву, далейшым павялічэньнем пролетарскае часткі Комсамолу, далейшым пашырэньнем і узмацненьнем партыйнага асяродку і, нарэшце, правілова пастаўленным Ленінскім выхаваньнем ўсёй комсамольскай масы“.

І далей: „Неабходна пры гэтым усім уцяміць, што асноўнай гарантыей забясьпячэньня пролетарскага кіраўніцтва ў ЛКСМ зьяўляецца—налічча цьвёрдага партыйнага кіраўніцтва Саюзам, ажыцьцяўляемага праз пролетарскі

асяродак Саюзу і, у першую чаргу, праз увесь партыйны актыў ЛКСМ“

Вось як правілова павінна ставіцца пытаньне партыйнага і пролетарскага кіраўніцтва.

Як-жа на справе павінна кожная організацыя выпрацоўваць гэтую пастанову?

У першую чаргу, трэба паставіць пытаньне росту Саюзу і яго рэгуляваньне. Было-б політычна неправілова, калі-б мы абмяжоўвалі рост комсамолу за лік сялянскай моладзі, альбо ставілі-б рост за лік сялянства ў залежнасьці ад росту пролетарскага асяродку Комсамолу. А такія спробы былі; напрыклад комсамольская опозыцыя прапанавала утварыць дэлегацкія сходы сялянскай моладзі з тым, каб абмяжавацца ад вялікага росту за лік серадняцкае моладзі. Гэта вядома прывяло-б к таму, што мы штурхнулі бы серадняцтва пад уплыў кулака і, такім чынам, падарвалі-б саюз рабочага і бедняка з серадняком, падрывалі-б пралетарскае кіраўніцтва ў саюзе. Былі спробы з боку асобных т. т., вядушчыя к таму, каб рост за лік сялянскае моладзі працягваць у залежнасьці ад павялічэньня кадру рабочае моладзі. Бязумоўна, што такая політыка прывяла-б к таму, што мы неузмацнялі-б пролетарскае кіраўніцтва над сялянскай моладзю, а маглі-б стаць перад фактам разрыва рабочай і сялянскай часткамі саюзу і актыўнасьць серадняцкае моладзі, скарысталі-бы нашы ворагі. Гэты неправіловы пагляд на рост Саюзу, 7 Зьезд Комсамолу асудзіў, сказаўшы, што правіловая лінія росту КСМ у вёсцы замыкаецца ў тым, каб шырока ўцягваючы бедняка і 100 % парабкоў, пры апоры на іх, уцягваць лепшую частку серадняцкае моладзі. Лепшую серадняцкую ў тым сэнсе, калі яна імкнецца к колектыўным і культурным формам землекарыстаньня, к саюзу з бедняком супраць кулака, якая патрымлівае партыю і комсамол у грамадзкай працы і працуе пад кіраўніцтвам апошніх. Але разам з гэтым трэба павесьці яшчэ большую працу па ўцягненьню ўсёй рабочай моладзі ў комсамол, бо чым мацней,

зьлітованей і дысцыплінаванай будзе пролетарскі асяродак, тым больш і шырэй мы зможам разгортваць нашу працу ў вёсцы. На долю невялікае часткі рабочай моладзі выпадае кіраваць выхаваньнем маладога пакаленьня сялянскай моладзі, адсюль задача—штодзённа зьвяртаць увагу на пролетарскі асяродак, яго павялічэньне і узмацненьне.

Уцягваючы сялянскую моладзь у шэрагі комсамолу, патрэбна штодзённа выхоўваць яе ў пролетарскім напрамку, у напрамку зразуменьня кіруючае ролі партыі і рабочае клясы ў рэволюцыі і соцыялістычным будаўніцтве.

Патрэбна, каб сялянская моладзь ведала шляхі нашага будаўніцтва да соцыялізму і прымала актыўны удзел у гэтым пад кіраўніцтвам рабочае моладзі. Ленінскае выхаваньне ў тым і замыкаецца, што комсамольцы ведаючы карэнныя пытаньні нашага жыцьця, як саюз рабочых і сялян, дыктатуру пролетарыяту і набываючы веды ў комсамоле, павінны практычна працаваць на грамадзкай, гаспадарчай і інш. працы пры дапамозе гэтых вед і пад кіраўніцтвам партыі, заўжды вядучы яе лінію, ажыцьцяўляючы ва ўсім яе задачы.

Калі гэтую масу сялянскай моладзі ўступіўшую ў комсамол нявыхаваем у гэтым напрамку, дык комсамол будзе мець шмат перашкод і небясьпек, якія будуць шкадлівы ня толькі дзеля існаваньня комсамолу, а наогул—дзеля дыктатуры пролетарыяту. Вось чаму вельмі важна задача выхаваньня комсамольцаў і ўсяго маладога пакаленьня і чаму на рабочую моладзь—як на авангард сялянскай моладзі—ускладаецца цяжкая задача, патрабуючая уразуменьня ўсёй рабочай моладзьдзю сваёй кіруючай ролі, сьвядомасьці і вытрыманасьці ў гэтай справе.

Але ня менш важнай задачай будзе зьяўляцца высоўваньне належнага кадру актыву, ня толькі з рабочых, але і сялян, бо нельга думаць, што толькі з адным рабочым актывам можна справіцца з гэтымі задачамі.

Задача замыкаецца ў тым, каб высоўваючы ў першую чаргу партыйна—пролетарскі вытрыманы актыў забясьпеч-

ваючы такім актывам вузлавыя пункты працы, разам з гэтым, прыцягваць да кіраўніцтва і сялянскі актыў, які зразумеў лінію партыі і комсамолу, і які на справе можа праводзіць гэту лінію.

Растучыя шэрагі комсамолу і запатрабаваньні рабоча—сялянскай моладзі, патрабуюць большай партыйнай вытрыманасьці, выхаванасьці комсамольскага актыву, як казаў СТАЛІН патрэбна «шалёным імпэтам павесьці выхаваньне ўсяго комсамольскага актыву», каб справіцца з задачай кіраўніцтва 2-х мільлёнай організацыяй.

І нарэшце, трэба штодзённа працаваць над павяліченьнем і паляпшэньнем парт'асяродку ў комсамоле, асабліва ў актыве, бо партыя праз гэты асяродак у першую чаргу ажыцьцяўляе сваё кіраўніцтва. Гэта задача ня менш важна дзеля комсамолу, як рэзэрву і дапамочніка партыі. Трэба добра памятаць, што пролетарскае кіраўніцва будзе сапраўды самым пасьледавацельным, пролетарскім кіраўніцтвам па характару, калі гэтым будзе кіраваць партыя—адзіная выразіцельніца інтарэсаў рабочае клясы і працоўных вёскі.

У справе пролетарскага ўплыву на сялянскую моладзь важную ролю мае шэфства гарадзкіх, асабліва рабочых ячэяк над вясковымі, а таксама пасылка рабочых комсамольцаў на працу ў вёску. Гэтыя два важныя сродкі, трэба усямерна скарыстоўваць у працы.

Вось галоўныя шляхі ажыцьцяўленьня партыйнага і пролетарскага кіраўніцтва і канкрэтныя задачы ў гэтым, якія штодзённа стаяць перад усім комсамолам.

Ніколі ня трэба забываць, што Комсамол зьяўляючыся па свайму складу рабоча-сялянскім, па сваім канечным мэтам, клясавым задачам і праграме зьяўляецца пролетарскай комуністычнай організацыяй, у якой кіруючая роля належыць рабочай моладзі.




Падабед Язэп.

## ЛІСТ БРАТУ.

Сьцяпан, навокал залатая восень.
З кляноў лісты пажоўклыя разносіць
вецер і завівае ў дзікі сьвіст.
Гляджу—і на душы кляновая завея
і даль: то робіцца цямней, то пунсавее,—
а ты мне пішаш гэты ліст.

Убачыў многа жорсткасьці ты з болем
у тым, што не паеду двору болей,—
як бы чужым сябе я абвясьціў.
О, брат—няўжо я маладую радасьць
ня ўбачу на другіх пукатых градах
і не пачую у другім лісьці?!

Падумай сам: я не малы. Як лопух, вуха
я не настаўлю і ня буду слухаць,
што будзе мама ласкава казаць.
Пакінуў двор—і не вярнуся болей
глядзець на нізкастрыжанае поле,
і на каня, што чэша зад.

Няхай жывуць: сястра, браты, матуля,
што ласку да дзяцей глыбока туліць
і пазірае ў даль, за лес, штодня.
Пайду сваёю, вілаватаю, дарогай
туды, дзе месяц срэбны свае рогі
закінуў гдзесь у маладняк!

Верасень, 1926 г.

Падабед Язэп.

# Мілы друг!

Захотелось сердцем крикнуць громко:
Никакие вожжи не нужны!
Наша жизнь, ведь, началась в патёмках,
А теперь мы ей ослеплены.

*Ал. Жаров.*

Сьвеціць сонца і песьня ліецца:
мы ў дарогах жыцьця ня прысталі.
Сэрца Партыі гулка б'ецца,—
сказ сталёвы чаканіць Сталін.

. . . . . . . . . . . . . . . .

Мілы друг! ад цябе я далёка,
але йдзём да адзінае мэты,—
знаем добра абое, як лёгка
будаваць нам краіну Саветаў.

Пурпуровасьць рассыпала восень:
клёны ў шапках з кумачнае медзі...
Пішаш мне, што табе быць прышлося
старшынёю у сельскім савеце.

Чую звонкі твой голас, ня змоўкла:
срэбраструйная радасьць сваволіць...
Мілы друг! Будзь і тут комсамолкай,—
хай напорнасьць ня моўкне ніколі.

Сьвеціць сонца і песьня ліецца:
мы ў дарогах жыцьця ня прыстанем!
Сэрца Партыі гулка б'ецца,—
сказ сталёвы чаканіць Сталін.

С. Анціпенка

(Мсьціслаўская група „Маладняка“).

# ПАСТУХ СЫМОН.

I.

На голым, як бубен, полі хадзіла стада кароў. Авады і мухі не давалі ім пакою, і яны махалі сваімі кучмастымі хвастамі, б'ючы сябе імі, нібы хлістамі па сьпіне. Залацістыя праменьні сонца падалі з усёй моцаю на зямлю і бяз жалю пяклі засмуглы і бяз таго загарэлы твар Сымонкі, сямнаццаці-гадовага хлапчука, які выцягнуўшыся на зямлі аб чымсьці думаў і думаў. І што толькі ня мятусілася ў галаве гэтага худзенькага загарэлага хлапчука.

Чамусьці ўспомніліся яму яго маці і бацька, успомнілася маленькая пакрыўленая хатка і сястронка Лёна і ўсё і ўсё ранейшае жыцьцё. Злыя палякі з ружжамі ў руках замятусіліся ў яго галаве. Ён успомніў страшны дзень, у які палякі запалілі маленькую пакрыўленую хатку, застрэлілі бацьку з маткай. «А дзе мая Лёнка! дзе мая маленькая сястра, з якой так добра я жыў!».. І зноў мільгануў успамін аб маленькай Лёнцы, якая памёрла без яды, на папялішчы свае хаткі. І ўсё і ўсё ранейшае жыцьцё праляцела ў галаве Сымона, які тут-жа падхваціўся ад муканьня кароў. І толькі тут ён заўважыў, дзе ён знаходзіцца і з доўгай пугаю ў руках пачаў Сымонка заганяць расьцянуўшыхся кароў, каб яшчэ й яшчэ успомніць пра сваё жыцьцё.

Але вострыя, сьветла залацістыя праменьні сонца, схаваліся за высокі бугор, ля вёскі Заціша і тады толькі Сымон сабраў свой статак і пагнаў да двара.

Ужо даўно апынулася вёска ў сьпячай драмоце. Пуста ўсё. Толькі ціхае неба з бліскучымі зоркамі глядзела на зямлю. Толькі яно бачыла ўсю цішыню і ўсё жыцьцё таемнае летняе ночы.

На прызьбе Навумавае хаты, свае нанятае кватэры, сядзеў Сымонка, усупіўшыся ў зямлю і абпёршыся на далоні сваёй кучмастай галавой. І зноў замігацелі думкі, зноў замільгала мінулае жыцьцё.

Два гады свае вучобы, жыцьцё за бацькамі, два гады ў школе—зноў мільганулі ў галаве Сымонкі. «Калі-б мой бацька!.. Яшчэ-б і шчэ вучыўся-б я. А цяпер?!.. Цяпер я бедны!.. цяпер я бязпрытульны, застануся такім на ўсё свае жыцьцё!..» і буйныя горкія сьлёзы пацяклі з вачэй Сымона і пачалі капаць і разьядаць цьвёрдую, прытоптаную зямлю каля прызбы Навумавае хаты.

Ня было нікога, хто-бы пажалкаваў беднага Сымона. Ня было нікога, хто-б пажалкаваў бедную сірату.

Так цяклі дні і жыцьцё бязпрытульнага Сымона, пастуха.

## II.

Журчыць каламутная вада. На беразе рэчкі пад сагнутаю лазьняю Навума, сядзела пара хлапчукоў.

«Ну й някота!»—так казаў засмуглы Сымонка з такімжа хлапчуком Язэпкам з вёскі «Новы мір», якая ляжала за пяць вёрст ад Зацішша.

Яшчэ ў годы вучэньня пазнаёміўся Сымон з Язэпкам, які толькі і быў таварышам Сымонкі, але жыў ад яго ён за пяць вёрст. Язэпка быў аднагодак Сымонкі. Выглядаў ён прыгожым, рассудным і здольным хлапчуком.

Ён зараз сядзеў разам з Сымонкам і неяк жалобна й прыхільна глядзеў на яго. Ён добра ведаў жыцьцё Сымонкі і жадаў яму дапамагчы.

—Слухай, Сымонка,—прагаварыў Язэп: ці будзеш ты мець час прыходзіць да нашае вёскі. адзін раз у тыдзень?»

«Чаму і на што?»—быў адказ Сымонкі.

—Вось чаму Сымон, ты сірата, ты бязпрытульны, ты ня маеш забясьпекі. Над табою трэба ўзяць нам шэфства,

каб выхаваць цябе ў комуністычным дусе, каб дапамоч табе ў тваём жыцьці.

—«Хто-ж мне тама дапаможа?»

—Наша ячэйка комсамолу—быў адказ Язэпкі. І паліліся словы з вуснаў Язэпкі, што такое комсамол, якія яго мэты, як склалася іхняя ячэйка і як ён сам год таму назад стаў у шэрагі яе. Талкова і сьвядома, без замінкі гаварыў Язэпка, і ў канцы сказаў:—«Мы будзем змагацца з тымі, хто загубіў нашых бацькоў і старэйшых братоў, якія змагаліся за справу працоўных!».

Супакойна слухаючы дагэтуль Сымонка, неяк радасна з бліскучымі вачыма абхваціў Язэпку і сказаў:

«Ад гэтага часу я ваш! Я буду змагацца так, як змагаліся мае бацькі!».

І тут-жа крывымі літарамі, на каравым ласкуту паперы пад дыктоўку Язэпкі Сымонка напісаў:

**У комсамольскую ячэйку**
вёскі «Новы Мір».

**ЗАЯВА.**

Прашу залічыць мяне сябрам вашае ячэйкі.

**Пастух Сымон,**
вёска Зацішша.

Пасьля чаго Язэпка расквітаўшыся з Сымонам і з словамі:—«у нядзелю прыходзь да нас»—шпаркім крокам па вузкай запыленай дарозе, накіраваўся да двара. А Сымон хутчэй пашоў палуднаваць, каб гнаць у поле статак, бо сонца зьвярнула з паўдня і пякота паслаблялася.

III.

Ляцелі летнія цёплыя дні, а разам з імі і Сымонава жыцьцё. Гаротны й засмучоны дагэтуль, ён неяк перарадзіўся. Ён зараз працаваў над сабою, ён пашыраў і паглыбляў свае вузкія веды, прыглядаўся да жыцьця навакол сябе і ўсё з мэтай таго, каб змагацца за новае жыцьцё, каб апраўдаць атрыманую ім назву комсамольца.

Будучы пастухом, ён находзіў час і на тое, каб схадзіць у ячэйку і на тое, каб пагутарыць з моладзьдзю, каб ахапіць яе новым уплывам, каб штурхануць яе да новага жыцьця. Бязпрытульны й адзінокі дагэтуль, Сымон стаў нейкім цэнтрам, навакол якога групавалася ўся моладзь вёскі Зацішша.

Кожны вечар бяз утомы і яшчэ з большай бадзёрасьцю, Сымон гутарыў з сабранай моладзьдзю, Сымон штурхаў яе да новага жыцьця.

Ужо чацьвёра хлопцаў вёскі Зацішша, дзякуючы дзелавітаму пастуху Сымону, сталі комсамольцамі і паставілі мэтай скласьці ячэйку, каб ахапіць усю вясковую моладзь.

Разам з гэтай вялікаю працай, Сымон прыглядаўся да жыцьця ўсяе вёскі і да таго кулацтва, прадстаўнік якога Трахім Міронаў кіраваў усёю вёскай, і да тае няурадзіцы, якая панавала ў Зацішшы.

Бедната была пад уціскам, сельсавет у руках кулацтва. Вось тут патрэбен быў Сымон і тая бядняцкая моладзь, якая-б здолела гэтае кулацтва. Разам з замацаваньнем кулацкае улады, разам з панаваньнем кулацкага сельсавету, расла й замацоўвалася пад кіраўніцтвам Сымона ў далёкай глухай вёсцы Зацішша комсамольская ячэйка,—барацьбіт з кулацтвам за новае жыцьцё.

Ужо надыходзіла восень. Азімае поле пакрылася чырвона-зялёнаю руньню. Сяляне справіліся з працай. Надыходзіў дзень перавыбару саветаў.

## IV.

Ціха на вуліцы... Толькі дзе-ні-дзе вецер падымаў густую пыль і нёс яго кудысьці далёка па вуліцы. Там-сям пякалі пажоўклыя лісты з пабагравеўшых дрэваў, якія чакалі халоднае зімы. За ваколіцай Зацішша жалобна завываў халодны асеньні вецер.

Ужо кінуў Сымон пасьці стада, ён зараз праводзіў больш вялікую працу.

Разам з халодным ветрам, дуючым на дварэ, у хаце Трахіма Міронава быў чуцен гвалт і гоман мужыкоў. Сёньня тут сход. Сабраліся, каб абраць новы кіруючы орган, новы сельсавет. За сталом, у куце пад большымі вабразамі, сядзеў таўстапузы каранасты кулак Трахім Міронаў і пацíху гаманіў з такімі мужыкамі, павісшымі на стол навакола яго. А ў гэты час Сымон разаслаўшы ўсіх сваіх хлапцоў па дварах, заклікаў бядняцтва на сход, каб скінуць панаваўшае кулацтва.

Хутка хата Міронава перапоўнілася настолькі, што парасчыніліся дзьверы й сенцы, а зачырванеўшыя й запацелыя мужыкі галгаталі.

Нагаманіўшыся, Міронаў падняўся з лаўкі, разгладзіў далікатна свае вялікія рыжыя вусы і сказаў:

—Брацьця! Нам пара пачаць. Парадак дню: «Справаздача й перавыбары». Разам з гэтымі словамі, Міронаў сказаў:—На першаму пытаньню некалькі слоў скажа мой памоцнік і намесьнік, брат Кузьма.

Але Кузьма заместа справаздачы не ўстаючы з лаўкі адказаў: «Усё, што мы рабілі, усё, што працавалі аб гэтым знаюць тыя, хто абіраў нас, як здольных у гэтай справе. Нам няма што гаварыць».

Кузьмовы словы ніколькі ня зьдзівілі прысутных сходу, бо яны ўжо даўно прывыклі к гэткім справаздачам і ўсе маўчалі, разявіўшы раты.

Але сядзеўшы на лаўцы ў куту бліз дзьвярэй, засмуглы пастух Сымонка стаў на яе і разам, нібы з рэчкі вада, паліліся словы аб працы і злачынствах кулацкага сельсавету.

Разам падняласся Міронава рука і, нібы вялізны молат, ударыла па стале, крышка якога раскалолася на двое. Упяліўшыся бліскучымі вачмі на Сымона, ён крыкнуў:—«Замаўчаць!», але нішто ня страшыла Сымона і словы ляцелі з вуснаў яго. Ляцелі тыя словы, якія даўно, нібы цяжкі камень, ляжалі на гаротным засмучоным сэрцы. У

канцы Сымон сказаў:—«Нам ня трэба кулацтва, нам патрэбен бядняцкі сельсавет!»

Гучны крык—«далоў! далоў іх!»—быў водгукам дзясяткаў галасоў прысутнага бядняцтва на Сымонавыя словы.

—«Вон з мае хаты, няшчасная галатва!»—зароў дзікім, не сваім голасам Трахім Міронаў. І разам увесь сход, за выключэньнем кулацтва, пакінуў Міронаву хату і накіраваўся да Навума, каб абраць бядняцкую уладу, бядняцкі сельсавет.

За сталом у Навумавай хаце, сядзеў ужо ня кулак, а пастух Сымон, які па жаданьню беднаты кіраваў бядняцкім сходам. Перш чым абіраць, Сымон растлумачыў ролю сельсавета, напрамак працы і хто павінен уваходзіць у яго. Разам з чым абралі новы кіруючы орган вёскі Зацішша, у склад якога увайшоў і пастух Сымон, як здольны працаўнік і вартаўнік бядняцтва.

—«Ну й Сымон! Вось так Сымонка, маладцом хлапец! Ён дапамог нам выдрацца з капцюроў Трахіма»—з такімі словамі разыходзілася сялянства па дварох.

Ужо надыходзіў вечар. Асеньняе неба завалаківалася цёмнымі хмарамі. Настала ноч... Усё замоўкла.

Ужо кукарэкнулі пеўні, а ў хаце Міронава ўсё яшчэ цяплійся агонь. Кулацтва аб чымсьці мяркавалася, аб чымсьці жыва гаварыла. Яно рабіла загавар на пастуха Сымона.

## V.

Ужо мінула восень. Настала студзёная зьлючая зіма. Сымон акрамя працы ў сельсавеце працаваў і ў комсамоле. Адзін раз у месяц ён хадзіў у вёску «Новы мір», каб абмяняцца вопытам ячэйковае працы.

Марозны зімны вечар. Зырка гарапь зоры на фоне неба. Некаторыя з іх мігаюць і, нібы сарваўшыся з высі, лятяць кудысьці ўніз, на зямлю. Скрыпіць сьнег пад нагамі.

З маленькай палкаю ў руках, у шэрым кажуху і ў такіх-жа штанах, абуты ў лапці з белымі анучамі, ідзе па дарозе, бадзёра падняўшы галаву, смуглы танкаваты сярэдняга росту хлапец.

Гэта Сымон. Ён быў у вёсцы «Новы Мір» і справіўшыся з працай ішоў да двара.

Думкі аб распачатай і даючай вынікі працы мятусіліся ў яго галаве. Разам перад вачыма апынулася складзеная ім ячэйка і тая моладзь, якая сумесна з ім будуе новае жыцьцё. Тут-жа ўшчэ заварушыліся думкі аб далейшай працы. Падрыхтоўка да вясны, да надыходзячага лета, дапамога бядняцтву—усё, усё абхапіла Сымона.

З поўнай галавою думак, Сымон і не згледзіў, як прайшоў ён поле і ўвайшоў у маленькія кусты алешніка, які ляжаў за адну вярсту ад Заціша. Толькі ціхі гоман абудзіў Сымона, толькі тут Сымон убачыў, што ён блізка ад двара.

Але тут-жа цяжкі ўзмах калом з-заду па галаве Сымона зноў яшчэ больш парушыў яго думкі. Неяк цяжка, нібы падрэзанае дрэва, ён пахіснуўся і зваліўся ў мяккія хлоп'я сьнегу з боку дарогі. Зялёна-сінія кругі замятусіліся ў вачох яго.

Тры чалавекі сталі прад яго вачыма.

—«Га!.. комсамолія!.. сельсавет... кулацтва... папаўся?!»... нібы страшны гром, гэтыя словы ударылі па вушах Сымона. Толькі тут Сымон заўважыў Міронава і двух яго сабратаў.

—«Я пачаў, яны скончуць!»—сабраўшыся з апошнімі сіламі прагаварыў Сымон.

Другі ўзмах калом па курчавай галаве, заглушыў Сымонавыя словы.

Брызнула кроў з раскалотае галавы яго, а расчынены рот і вочы гаварылі:

—«Я пачаў, яны скончуць!»...

**Я Івашын*)**

# СЭРЦА РАДАСЬЦЮ СТРУМЕНІЦЬ...

Я журыўся агнёвай журбою,
Калі зьдзек панаваў у краіне,
І стагнаў беларускі мужык:
У змаганьні няроўным ён гінуў,—
Ў сьвет шырокі слаў роспачы крык.

Калі-ж вывелі нашу старонку
На шлях вольны байцы-змагары,
Калі край звоніць працаю званка,
Калі ў ім зьзяюць бляскі зары,—
Сэрца радасьцю—сонцам струменіць.

Сэрца радасьцю—сонцам струменіць,
Сэрца ўзьвірана песьняю буйнай:
Ў ёй зьвіняць перамогі акорды,
Ў далячынь яна рвецца віхурна,
Дзе гучаць адгалоскі так горда.

Заструменіла радасьцю сэрца—
І пашоў з песьняй новай я ў сьвет:
З старым ладам павёў я змаганьне,
Каб спаліць, спапяліць яго сьлед,
Каб жыцьцё цьвіло сонечным раньнем...

Не зязюля на дубе зялёным
Загукала ў гушчары лясным,
Не над полем зьвіняць перазвоны,—
Новым днём маладняцкая ліра
Грае гымн з дзіўных гукаў вясны.

*) Поэта Я. Івашын, маладняковец Бабруйскай філіі „Маладняка". З прычыны пераезду дзеля працы ў Калінішчыну ён зьяўляецца сябрам нашай акруговай філіі „Маладняка".

Я. Івашын.

## Раніца у вёсцы.

Яшчэ зорыцца неба над гаем,
А ўжо чорную рызу абшараў
Расхінае на ўсходзе дзяньніца.
Рань бялявай стралой прылятае—
І люстраняцца срэбрам выгары,
Рэчка сінім агнём прамяніцца.

У прадоньні, дзе ночка сканала,
Плывуць ціха, бы чайкі па мору,
Паркалёвых хмурын валаконцы.
Морам чырвані зьзяе за галам.
Вось здалёку, з-за цьмянага бору,
Агнявокае бліснула сонца.

Абудзілась працоўная вёска
Песьняй—клічам трубы пастуховай,
Цэлай плоймаю гукаў бадзёрых.
Зазвaнілі жыцьця адгалоскі
Над ачнуўшайся вёскаю новай
У сьвятляным бязьмежным прасторы.

З нізкіх комінаў хатак кудлатых
Завіхрыўся дымок кучаравы
І расплыўся ў блакітным бяздоньні.
Гучным клёкатам бусел цыбаты
Яснавокую рань прывітае,
Песьню раньнюю жаўранак звоніць...

Янка Гоманаў.

(Мсьціслаўская група „Маладняка").

## Засьпявай....

Засьпявай, што к сонцу сьцежкі струнамі
і, як лісты шапочуць, засьпявай!....
Шчэ месік будзе срэбрам руні мыць
хоць у гародзе й зжоўкне крапіва.

Пад звон мэлёдый жытня-васільковых
ня скрышыць слоў Трубецкая разьня*).
Казалі вецер пагнуў падковы,
карчаваўшы гонкі беразьняк....

Засьпявай, каб рэчкай гукі ліліся,
каб у песьнях поймай**) душа!....
Распускаліся на ціхаводзьдзі лілії.
Лета калосьсем убірала абшар....

Прасявала бабуля цякун скрозь лямец,
адкідала малому вогнік «на зарэ»!....
Учарашнім сэрца не запляміцца,
а будзе жаданьнем гарэць.

---

*) Каля 60 гадоў XIX веку князь Трубецкі наладзіў у Мсьціславе пагром.

**) Пойма—летнія павадкі.

**Зьм. Астапенка.**

(Мсьціслаўская група „Маладняк").

# Я ПАШОЎ У ГОРАД....

Я пашоў у горад звонкай восеньню
Даараўшы гоні ля раўка.
Мяне неба вабіла празрыстай просіньню,
І абшар палёў назад гукаў.

Я пашоў дарогаю, загонамі,
Цалаў вачыма ўзгораны абшар
І ўзьняліся думкі роем—перазвонамі,
Заіскрылась раніцай душа.

Эх, бывай, бывай, паласа мая!
Зарасла чарнобылём па мяжы.
Навучусь—зьвярнуся такі самы я,
Буду ў сэрцы я заўжды мужык.

Толька думкі, думкі ўзварухнуўшыся
Карагодамі будуць ў галаве кружыць.
Узару цябе па новаму зьвярнуўшыся,
Паласа мая, з травою на мяжы!

А пакуль—бывай—іду да гораду;
Там упарта я над кніжкаю схілюсь....
І назад зьвярнусь магутным волатам,
Зноў зьвярнусь на родную зямлю.

**Алесь Валошка.**

# БАЙСТРУК.

Як чорным коўдрам, зацягнуты ўвесь небасхіл. Заўсёды жывое, блакітнае неба, як бы страціла ўсю сваю прыхільнасьць да жыцьця. Куды ні глянь, няма прасьвету. Перад гэтай вялізарна магутнай хмарай, чымся дзіцячым здаецца хваляваньне маленькай, бліскучай зорачкі, як сірацінкі, загубіўшайся сярод бязьмернага поля. Але навальніца прайшла і жыцьцё мала па малу ўваходзіць у свае правы. Пачынае ажываць, варушыцца прыціхшае, прыбітае, пад час навальніцы ўсё жывое. Толькі далёкае грахатаньне грымот, ды блікучыя іступікі маланкі напамінаюць аб пранесшайся буры.

З пачатку шэрым, усё сьвятлейшым робіцца неба, быццам нейкая сіла магутная, уладарнаю рукою адхіляе пахмурную заслону. Высока ў паветры пачуўся сьпеў скаўронка; буйствам, радасьцю жыцьця аддае ад яго песьні: Далей—болей адзін за адным напаўняюць паветру усялякія гукі—гукі жыцьця.

Яшчэ крыху і верхавіны сасон бліжэйшага лесу азаляціліся праменьнямі сонца. Як, чараўнік, выходзіць яно з сваіх пакояў і шчодраю рукою разсыпае жыцьцё...

Хвала яму! Хвала!

Нясецца з усіх бакоў. Усё вышэй і вышэй узьбіраецца яно ў сваім уладарным паходзе, нагроды раздаючы бяз меры. Зноў чыстае празрыстае неба, зноў бяздонная яго глыбіня, зноў яго блакітны шырокі абшар, ласкаю, прыгодаю вабяць вока людзкае.

А хто ўспомніць маленькую зорачку, ня лічаныя хвіліны ўсплыўшую па за хмуры, і так жорстка пераможнай усходзячым чарадзеям сонцам?

Змаганьне! дарогу жыцьцю!

I.

Весела папырсківаў вагонь у печы, застаўлянай ад сьцяны вялікімі саганамі і маленькімі гаршэчкамі. Час ад часу лоўка завіваліся ў паветры, перад печаю вілкі, і адзін з саганаў крыху пакачаўшыся, як бы ў развазе, ці варта, выпоўзываў з печы і пастаяўшы нейкі час на прыпеку, зноў тым жа парадкам лез у печ.

Вілкі зьменівала чапяла. І тагды па над гаршкамі пакачываючыся ў паветры над вагнём пырскала шмальцам шырокая патэльня з пякучыміся на ёй блінамі.

Ля печы вельмі жвава завівалася маладая кабета, надта прыгожая, стройнае постаці, ядыная дачка старое бабкі Ганны, ведамай знахаркі вёскі Грандзіч, слава аб якой шырылася далёка па за ваколіцамі вёскі.

У гэты час яна, перабіраючы нейкія зельля, якіх тольկі што папрыносіла, зьбіраючы да ўсходу сонца, адной нагою калысала калыбку, падвешаную да бальկі на столі, з вельмі удалым дзіцяцям, якое неспакойна варушылася адбіваючыся маленькімі пухкімі ручкамі ад насядаючых на яго мух.

Мабыць адолелі мухі, а мо' й час прышоў толькі раптам цераз усю хату пранёсься досыць зычны гук гадавалага дзіцяці.

У-а-а! У-а! Ма-а-а!

І льнявая, беленькая галоўка, выблутаўшыся з накіданага ў калыбку шмацьця, паказалася павернуўшыся ў бок печы, дзе запрацаваная маці як раз выймала апошні блін і шлёпнуўшы яго ў рэшата бегам падбегла да сына.

—А мой Янаčка! сыночак родненькі, ужо прачнуўся! Хадзем жа да сваёй матулі! Ну! годзе плакаць.

Яшчэ хвіліна і дзіця весела гойсала на руках у мацеры, якая тым часам падпарадкаваўшы стала зьбірацца да сьняданьня, каб не спазьніцца на жніво да Лявона Дзьмітрачанкі, заможнейшага селяніна Грандзіч, меўшага ля чатырох валок зямлі.

—Ну! бывай, сынок! слухай бабулі! сьпяшаючыся прагаварыла Наста устаўшы з-за стала, з замілаваньнем пацалавала Янука. Кінуўшы некалькі слоў мацеры, падхапіла на хаду сярпок, падвязала хустку і шпаркім крокам выйшла з хаты,

Заскрыпелі вешніцы, цяўкнуў сабака і змоўк і спакой двору нічым не парушаўся.

І толькі ў хаце пастаўлены ў стоялкі бедны Янычка сьлюнявіў бараду, выбрыківаў ножкамі, імкнучыся як бы аслабаніцца ад праграды, перашкаджаючай яму пайсьці паглядзець на Мурку-ката, які карыстаючыся тым, што старая адвярнулася, каб прыгарнуць прысак, лоўка ўсадзіў галаву ў гладыш са сьмятанаю і аплятаў так яе, што аж за вушамі трашчала.

Цераз адчыненыя дзьверы, падтуліўшы хвост, прыгінаючыся, упоўз Лыска і прагавіта аглядаючыся па бакох, падышоў да стоялкі, лоўка цяўкнуў зубамі і вялізны кус бліна з рук Янычкі пераскочыў і прапаў у яго пашчэмках.

—Ба-а-а! А-а-а! заплакаў Янук.

—А ліха на вас! Во паскуда! Вон! Каб цябе воўк узяў! прашамкала старая Ганна, адначасна падмацаваўшы свой сказ чапялою, адпушчанай ня зусім далікатна ў бок сабакі. Спрытна ўвіхнуўшыся, як куля выляцеў ён з хаты і выскачыўшы на двор, галосна забрахаў, пратэстуючы супроць гэтакай зьнявагі.

Доўга яшчэ завівалася старая ля печы, стала, у мыцельніку прыбіраючы і мыючы начыньне, зусім, як бы, забыўшыся на пакінутае ў стоечцы дзіцянё, якое шлёпаючы ў макроце забаўлялася брызгамі з пад ног. Нарэшце управіўшыся на невялічкай гаспадарцы, падыйшла старая да малога, выцягнула са стоялкі і панесла на двор.

Там сеўшы на прызьбе і ўсадзіўшы пад ногі Янука жвава ўзялася за аціраньне нейкіх кветак, у мяшэчак перасыпаючы іх на далоні й старанна абіраючы лісткі.

На вуліцы вялікага сяла, якім былі Гарадзічы, у гэту пору панавала сумрожная цішыня. Усё больш меньш

здольнае, дарослае выбралася ў поле. Пагода стаяла надта спрыяючая для жніва і ўсе імкнуліся колькі сіл хапала яе выкарыстаць. Толькі зусім малыя ды старыя пазаставаліся ў хатах.

З гэтае прычыны рымкат і стук калёс на вуліцы зьдзьвіў старую і захіліўшы вочы ад сонца яна пільна стала прыглядацца ў той канец вуліцы адкуль гэтыя гукі несьліся. У неўзабаве паказалася невялічкая гнедзенькая кляча, шчодра падбодрываемая здаравенным пугаўём па сваім сухапарым бакам. ¡Чалавек, які сядзеў на возе, мабыць меў вельмі паважную справу, бо не шкадаваў свае конякі й гнаў яе, што меў духу.

Параўняўшыся з Ганнаю, шыбка скочыў з возу і кланяючыся падышоў да старой.

—Цётачка, родная, на вас адна надзея! Зрабеце ласку памажэця, бяда вялікая страслася.

—А што, сынок?

—Ды жонка мая неяк занядужала раптам. Была ў полі, усё нішта, да мабыць перамаглася ды заўчасу радзіць зьбіраецца. Крычыць, няма рады, а нічога ня відаць. Бяда, памажэця, калі ласка, век дзякаваць буду!

Ці далёка дзе, адкуль?

—Ды не, родная, з Баброў, усяго [вярстоў пяць будзе, ня болей. Памажэця, зрабеце ласку, а то адна баба ў хаце, а тут такая пара, працы хоць адбаўляй!.

—Зараз, вось толькі дзіцё упарадкую.

—Альжбе-е-е-та! Альж-бе-е-е-та! Хадзі сюды-ы! Хутчэй дачушка!

Невялічкая дванаццаці гадовая Альжбета Гкумава суседа дачка спрытна скачучы на аднэй назе прыгоцала да Ганны.

—Пагуляй ты з Янукам крыху, а я паеду ў Бабры. Калі што дык аднясеш да мацяры, яна жнець ля пасекі ў Лявона.

Сама жа тым часам зайшоўшы ў хату і набраўшы нейкіх прыладаў у мяшэчак хутка выйшла і сеўшы на калёсы у неўзабаве скрылася з воч, завярнуўшы за вугол суседавай хаты.

А бедны Янук, утарапіўшы вочы ў бок ад'яжджаючай бабкі, нейкі час сморкаў, сморкаў, лупаў вачыма і зароў з усіх сіл свайго дзіцячага кволага гарляка.

Доўга пацяшала Альжбета мальца, усялякімі цацкамі старалася яго павесяліць, аж на рэшце з сіл выбілася дзяўчына.

—Вось, байструк, заўцяты! Ніяк яго не супакоіш. І што рабіць мне з ім?

Яночка, ня плач, я табе цацку зраблю! Чуеш, ня плач, Яначка!

А Яначка размазваючы пясок па сьлюнявым твары як бы ня чуе і толькі бембдзнае ды й годзе.

—Панясу да мацеры, няхай робіць што хоча! нарэшце вырашыла Альжбета і схапіўшы яго пад мікіткі, узвалокшы сабе на грудзі шпаркім крокам панесла на пасеку да Насты. І яшчэ з далёк заўважыўшы пахілую яе сьпіну перад сьцяною высокага буйнага жыта загаласіла.

Цётку! Цётку! Цётка Наста, вазьмеце Янука ён плачаць вель-ельмі!

Пачуўшы свае імя адвярнулася ў бок Наста і угледзеўшы Альжбету з малым хуценька пабегла да яе.

—А мае вы, даражэнькія! Дзе гэта ён так умурзаўся? Ажна пасінеў ад крыку, дзіцятка мілае. А дзе жа гэта бабка дзелася, на што пакінула?

Апынуўшыся на руках у мацеры Янук ужо толькі ўсхліпываў і цёр кулакамі вочы, яшчэ болей размазываючы бруд на ўсім твары.

Альжбета, сказаўшы, тым часам, што старая Ганна паехала з нейкім чалавекам у Бабры, пакінула ёй Янку,

якога яна ніяк не магла супакоіць і забавіць, бегам, з падскокамі паімчалась назад у вёску, цешучыся што ня трэба будзе болей вазіцца з хлапцом, што можна будзе пагуляць з другімі дзяўчынамі на прасторы, ускочыць у агароды—ды мала ці чаго!?

Наста пасадзіўшы Янука ў снапы каля сябе, і крыху паабцёршы падолам кашулі яму твар, толькі мелася адхінуцца і ўзяцца за жніво, каб дагнаць папярэдзіўшых яе таварышак, як сустрэлася са злым тварам Лявона. Ён толькі падышоў з пасекі да жнеяк і бачыў як Наста займалася з сынам, адстаючы ад іншых жнеяк.

—Што гэта? За што грошы плачу? Каб няньчыць мне ўсіх байструкоў за мае грошы?

—Я, дзьдзька Лявон, даганю, што прапусьціла, бачыця прынесьлі з хаты сына!

—А мне што да таго, мне жаць трэба і болей ведаць нічога не хачу!

—Вы жа самі дзяцей гадуеце, як вы гэта так гаворыця, дзядзька Лявон?

—Тое-ж найшла што раўняць. Басота ды распуста адна пайшла цяпер.

І павярнуўшы тоўстую, чырвоную шыю пайшоў па полю паўздаў-ж жней, панукаючы й толькі з падлоб'я глядзючы на іх.

Горка, горка стала Насьцы. Сьлёзы туманам завалаклі вочы. Прыхіліўшыся да Янука шчыльна прытуліла яго да грудзей, як бы баронячы ад людзкае зьнявагі і кпінаў. А сьлёзы, горкія дзявоцкія, сьлёзы крыўды, роспачы за мілае дзіця буйным струменем скаціліся па твары.

Жарка паліць сонца. Кашулі ліпнуць да цела. Горла як перавязанае нейкай пякотай. Смагота. Жнуць не разгібаючы сьпіны жнеі чужое дабро.

Сноп за снопам, як кучы нераможаных багатыроў усьцілаюць потны шлях.

Прыціх бачучы матку Янук, як бы і ён зразумеў аб чым крычэў Лявон. А ў блакітна-васільковых вачох разам з закаханьнем да мацеры, нейкі ў глыбіні схаваны мітусіўся страх.

Страх будучыны, далейшага жыцьця.

II.

Гады плылі. З малага заўсёды абмэцганага, сапліўага хлапчука, Янчка падрос у дарослага хлапца. Старая Ганна даўно ўжо памёрла і неяк цішэй, сумнее стаяла ў хаце. Куды меней стала наяжджаць народу. Вельмі, вельмі рэдка якая жанчына, або дзеўка забяжыць на хвіліну, пакруціцца, тое-да сёе і няма яе.

Доўга бяз конца цягнуцца, як нейкая даўжэйшая заслона, вясковыя, зімовыя ночы.

Патрыскае лучына, час ад часу плачучы чорнымі вугольлямі, ападаючымі на падлогу.

Гурчыць пад роўнамерным поціскамі нагі, калаўрот і сьлюнячы што хвіліну пальцы, Наста старанна прадзе тонкую кужэльную нітку.

Старэнькая хатка ўся як бы крэхча ад націскаў марозу; крыху падпаленая печ, амаль зусім не дае цяпла.

Студзёна і голадна, відаць, жыве Наста. Зжоўклы твар, прыгнечаная постаць, ня зусім цэлая вопратка гаворыць, што нялёгка даецца жыцьцё гэтай кабеце. Але ня гледзячы на ўсе гэтыя няўзгоды, астаткі мінулае прыгожасьці, дзявоцкага хараства, яшчэ і дагэтуль даюць сябе адчуваць.

Тут жа ля мацеры, апрануты ў старэнькі, дзіравы кажушок сядзіць на ляжаку Янчка. Статны яго белы твар, далікатныя рысы твару, як бы зусім не мяркуюцца з вакаляючым жыцьцём. Як лён белакурыя, віхрастыя валасы, нізка апусьціліся над высокім лбом. А сінія васільковыя вочкі, як туманам покрыты дзіўнай зусім ня дзіцячай сумотай, уважліва сачаць за пальцамі, старанна перабіраючымі лыкі, уплятаючы з іх лапці.

Недзе забіўшыся ў шчэлінку звонка пяе сваю аднатонную песьню цыркач, гэты сьведка нашага сялянскага гаротнага жыцьця. Гэты музыка, які толькі адзін у доўгія зімовыя ночы ні то цешыць, ні то сум яшчэ большы нагаляе.

Цр-к! Цр-к! Цр-к!

А ў больш цяплейшым месцы, па за цаглінамі печы, паважна пакручываючы вусамі, як добрыя паны шляхцюкі у карчме пасьля кірмашу, сядзяць другія прыяцелі гаротнага жыцьця—прусы.

Журчаньне калаўроту, цырканьне цыркача запаўняе хату аднатоннымі гукамі. Сьвятло лучыны адкідае на проціўлеглую сьценку дзіўна-фантастычныя цені ад рухаў рук Насты. Узмацаваўшыйся вецер з усім пэндам налетае з-завугольля і хлешча ў сьцены пахілае хаты. Прадзіраецца скрозь найменьшыя шчыліны, як бы вырашыўшы канчаткова даканаць яе.

Жудасна, а разам і пякельная сумота.

Вось ужо некалькі хвілін зусім перастаў плесьць лапці Янка, закінуўшы назад галаву, прымружыў вочы і аб чымся глыбока задумаўся хлапец.

—Матулю! А Хведзю Лявонову кніжку прывезьлі з мястэчка, ды ўсю ў малюнках, такія прыгожыя, нібы жывыя!

Ціха ў хаце, як бы ня чуючы Наста надалей паціскае нагою калаўрот і толькі часьцей і часьцей нешта сьлюнявіць кудзелю. Ускінула вачмі на сына, а ён як бы аб чым глыбока разважаючы, з прымружанымі вачыма сядзіць не кранецца. Доўгія чорныя расьніцы адбіваючы цень, яшчэ болей упрыгожылі яго твар.

—Мілае, любае дзіцятка! шэпчуць міжвольна вусны.

—Маму! А ты мяне пашлеш у школу? Я буду добра-добра вучыцца. Мне гэтак хочацца ўмець чытаць, Пашлеш?

—Пашлю, сынок, на лета. Ты яшчэ маленькі; вось сам бачыш якая суровая зіма, кажушок твой слабенькі, а ў школу далёка, замерзнеш!

—І кніжку купіш, мама? Такую як у Хведзі?

—І кніжку куплю, мае сонейка!

Яшчэ мацней закруціцся калаўрот, сьціх цыркач за печчу. Новая запаленная лучына, буйным полымем узьнялася, асьвяціўшы ўсю няпрытульнасьць, беднасьць хаты. Залапаталі, нечым спуджаныя, куры пад печчу, пачаў цёрціся пад палом падсьвінак, якога дзякуючы марозам туды загналі, недзе ў куце пачала скрабціся мыш.

Жр-жжр-жжр! гурчыць калаўрот.

—Маму, а чаму гэта мяне байструком дражняць? Аж узрыгнула Наста. Баржэй закруціўся калаўрот, задрыжэлі пальцы і тонкая нітка кудзелі разам абарвалася. А сколькі горы, крыўды, непакою адбілася на яе, змардаванным жыцьцём твары. Але імкнучыся ня выдаць агорнутага непакою запытала.

—Хто, сыночак родны?

—Гавораць, што й таты ў мяне ня было, што нічый я!

І твар дзіцяці, пакрыўджаны злымі насьмешкамі, упіканьнямі таварышоў з невыразнаю думкаю абярнуўся да Насты, чакаючы адказу. Шэрымі, няўзрочнымі парабіліся вочы.

—Дурні яны, ангялок мой! Дрэнныя яны хлопцы, ня слухай іх. Яны ўсё абы так толькі, пакрыўдзіць, а ты з імі ня гуляй.

—Ды вось і сёньня вышаў я на вуліцу, а Хведзька ды Сымон як учапіліся да мяне: «Байструк ды Байструк» а потым пакацілі ды давай сьнег за капулю сыпаць. Прасіўся я прасіўся, а яны яшчэ горай. Чаму гэта так, маму, яны гэтакія? Нашто зьдзекуюцца?

Але апошніх слоў як бы ня чула Наста. Паволі рука, сама, быццам самлеўшы, апусьціла на калені. Змоўк ка-

лаўрот. І думы, горкія дзявоцкія думы, нібы рой пчаліны апусьціліся на галаву. Крыўда, даўная крыўда людзкая полымем адбілася на твары. За што? За што? Дзіцё й тое крыўдзяць.

І як бы жывым у адзін момант перад вачыма паўстаў малюнак хоць далёкай але вечнай новай мінуўшчыны—

Нічым не парушаны спакой вёскі адразу, як навалай зьбянтэжыўся адным словам «Мабілізацыя» прывезеным з валасьці Міколаю Чыжам—дзясяцкім куды той езьдзіў па нейкім справам. Два дні вёска толькі й чула плач, ды са смуткам праводзіла дзядзькоў, якіх жорсткі загад пабраў на вайну. Асіроцелі сем'і. Пуста стала ў хатах. Праца сама з рук валіцца.. Пайшоў бацька Насты. Горка, разпачліва, як на могілкі праводзілі аж да гораду і больш ня ўбачылі.

Хвалі вайны, адступленьня, наступленьня, недзе далёка бушавалі, але-ж урэшце дакаціліся і да Грандзіч.

Зарою прачнулася вёска ад лёскату гармат, гоману людзей. Ішла армія.

Адпачынак. Да іх на квартэру сталі нейкія афіцэры.

Два дні ўсяго стаялі—два дні, а гэтыя дні, адзін вечар астаўся на ўсё жыцьцё.

Добра гуляла начальства. Дарагая гарэлка, што дня кампанія вельмі вясёлая.

......Гулянка йдзе, толькі пасьпяваюць шклянкі паражніць.

Што жа вы, барышня, з намі ня гуляеце? Да вы не саромейцеся. Ну, падыйдзіце сюды!—прагаварыў нейкі мабыць старшы з іх, абярнуўшыся да дзяўчыны, якую яшчэ ў дзень запрыкмеціў.

Далёка-далёка забілася ў кут, і страшна і сорамна беднай дзяўчыне. Аж тэй п'яны, хістаючыся на няпэўных нагах, трымаючы чарку, пляцецца да яе.

—Мама! Родная! Не хачу! Што вы робіце? раздаўся крык дзяўчыны, якому ў адказ прарычэў, як рык зьвяроў, рогат п'яных афіцэраў.—Пі, галубка! Нічога! і сілком апаражніў уліўшы ў рот чарку пякучай гарэлкі і выцягнуў з кута да стала.

Дарэмна маці прасіла, каб не чапалі дзяўчыну—выкінулі бедную зусім з хаты.

Доўга пацяшаліся п'яныя «камандзіры» над, з непрызвычаеньня, напоенай дзяўчынай. Дзікі погляд вачэй, непрытомнасьць рухаў, перапалох напісаны на ўсёй постаці дзявоцкай цешыў разьюшаных п'яных паноў.

А потым, калі сталі разыходзіцца... адзін, той, гэтакі прыгожы усхапіў як дзікі барбар, як зьвер сьціснуў хрупкае цела дзяўчыны. Пасалавеўшымі, нічога не бачыўшымі вачыма павёў па бакох і падняўшы на рукі дзеўку, хістаючыся панёс і кінуў на ложак, які аж хрымзнуў ад пацiску... а потым... дрыжачымі рукамі стаў зьдзіраць вопратку... Разьдзёр кашулю... Від некранутага дзявоцкага цела адурыў яго... Як зьвер накінуўся... Благаньне, упрашаньне, сіла—нічога... Зубамі рвала яго... Нічога... Схапіў... Як раненая птушка крыкам праразьлівым прагучэў гук пратэсту, але ў рогаце раз'юшаных «защитников родины» ён прапаў.

Потым чарга... Колькі іх?.....

А маці бедная галавою аб сьцену білася, рвалася да дочкі, каб выратаваць яе, каб самой заступіцца за маладую кволую дзяўчыну,

Але бот лакіраваны лоўкім манерам адкінуў яе ў кут сенцаў.

Раніцаю паехалі... Ціша запанавала ў вёсцы. Плакалі маткі, бацькі. Спасіцяляў праклінaлі. Сівою стала Ганна за адну гэту ноч. А Наста доўга, доўга не паднімалася з пасьцелі. Як зблыканая вечна крычэла, прасілась, кусала пальцы, рвала на сабе валасы... Потым сьціхла, ўстала.

Уся жудасьць перажытага зноў апанавала яе..... Далей Нёман.... выцягнулі амаль жывую.... адыйшла.

У цяпер такая пакута. За што, о, роднае небо, так мяне караеш?

— Матулю! радная ты плачаш? Чаго? Няўжо я цябе пакрыўдзіў чым небудзь?

— Не, сынок даражэнькі, не, мае сонейка, так нешта сумна вельмі стала. Хадзем спаць палажу. Ды чаго ты, я так, ну, ня буду!

А сьлёзы руччом, так і льюцца, сілы няма трымаць іх і кладучы сына мачыла сьлязьмі яго кудрабелую галаву.

Моцна ўсьцісну да балючых грудзей, а думы як маланка пякуць мазгі; гэтак хочацца любасьці, лепшага жыцьця, а тут у нядолі да і тое дапякуць.

—Сьпі, галубок, сьпі я ня плачу!

Пагасла лучына. І чорным крыдлам пакрыла ад узіраньняў людзкіх гора, ахвяру пацехі паноў.

А вецер ўсё мацней, усё заядлей і заядлей валтузіць кволыя сьцены, быццам і ён хоча спробаваць сваю моц і сілу над безабароннаю, пакрыўджанаю істотаю.

І толькі цьвіркач. гэты адвечны мужычы музыка цягне й цягне песьню сваю, песьню нядолі й жальбы.

Цр—к! Цр—к! Цр—к!

III.

Зіма зыйшла. Па вяснавому галубіць сонца праменьнямі сваіма ажываючую прыроду. Весела чырыкаюць вераб'і пад страхою, аціраючы умэцганыя ў дарожнае гразі дзюбы. З усіх паўзгоркаў шумна-гаманліва пераліваючыся цякуць струмыкі з пад сьнегу, раствораная сонцам.

Ужо па белым полю чарнеюць, што дзень то большыя вялізарныя чорныя латы. Як адпачыўшы багатыр зямля зрывае з сябе путы, наложаныя няўблаганаю прыродаю.

Апусьцілі пуні гаспадарскія, жывёліна выпушчаная на двор, хістаючыся бадзяецца па загуменьні, пераціраючы

пацёршымі зубамі леташнія лісьцьця і старанна падбіраючы захаваўшыяся пад сьнегам, папрэўшыся пукі сена саломы.

Рэдка які гаспадар ня турбуючыся сустракае надыходзячы дзень. Пустыя пуні ўзмацняюць імпэнт жаданьня хутчэйшага прыходу вясны, калі можна будзе спакойна пусьціць скаціну ў поле.

Ня лепей і ў хатах. Канчаюцца запасы хлеба. Усё пусьцей робіцца ў адрынах, усё скупей і скупей жыве селянін. Асабліва цяжка даводзіцца бедняку, бы калі яшчэ сям'я спорная.

У адзін з такіх прыгожых вясновых дзён, калі ўсё заклікала да жыцьця, вясёласьці—у хаце Насты адбываліся ня вельмі вясёлыя рэчы. Апошнюю муку замясіла ў дзежцы, а цяжкія думы, як пражыць далей, як пракарміць свайго Янука, жорстка паціскалі мазгі.

Як быць? Дзе, адкуль узяць?

Цэлую доўгую зіму, марнуючы вочы, недасыпаючы начэй прала чужую кудзелю, з чым могла як-так дачакаць вясны. Свайго хлеба даўно ўжо не хапіла. Маладая здаровая ў ранейшыя гады без асаблівае цяжкасьці пражывала, выпрацоўваючы досыць за зіму і лёгка сустрэкала вясну. Янук рос ня ведаючы раскошы, але й не адчуваючы голаду.

Гэтую зіму, часта праца выпадала з рук, ня можа ўжо з гэтакай заўцятасьцю, як некалі зарабляць. Кашаль які ўсё болей і болей сьціскаў грудзі, перашкаджаў працаваць, Згінуў румяняц і нейкая падазроная жаўцізна разплылася па ўсім твары. Загастрыліся сківіцы, выцягнуўся нос. Глыбока запалі вочы.

Вось і цяпер цяжкім прыступам кашлю адолела яе. Глухі з пералівамі вырываецца ён з грудзей.

—- Кх! кх! кх! са сьвістам і хрыпкаю вырываецца паветра. Нейкай быццам даўжэннай, вострай голкай перацяло скрозь грудзі—схапілася рукою. Перад вачыма замітусіліся сіня-жоўтыя матылі.

— Ай, што жа гэта такое? як маланка пранеслася думка ў мазгох.—Сухоты?

Канцы пальцаў задрыжэлі і міжвольна сьціснулі канцы разпахнутай жакеткі,

—Матулю! Што гэта з табою? Ты хворая? Ці што? Адкажы—прагаварыў Янучок, які прыйшоўшы ціханька з двара, доўга стаяў у парозе, прыглядаючыся на мамку.

—Э! нічога! так крыху застудзілася, вось і кашляю. —Разуйся, сынок, бачыш як ногі прамачыў, лезь на печ, зараз праснака сьпяку, пад'ясі з малаком. Ну, хуценька.

І перамагаючы, адолеўшую слабасьць, пачала зноў завівацца ля печы, час ад часу ўскідаючы вочы на сына, які узгробшыся на печ нешта выстругіваў ножыкам.

Раптам заскрыпелі вешніцы, нехта грузна прахлюпаў па гразі, што як месіва мягкім, ліпкім слоем пакрыла ўвесь двор. Заляскатала клямка і шырока адчыніўшы дзьверы увайшоў у хату Ахрэм, выбраны ад вёскі ў сельсавет і які спаўняў усялякія грамадзкія даручэньні.

—Здарова будзь, Наста! Як гаруеш, бядуеш?

—Сядайце, калі ласка, самі бачыце, жыцьцё як на далоні, дабра, рэч ведама, нам гаротным чакаць асабліва няма адкуль. Сядайце!

І схапіўшы стары падвярнуўшыся пад руку фартух, зьмяла з услону накіданыя на ім стружкі і іншую дробязь. Сеўшы Ахрэм доўга вадзіў вачыма, па ўсіх кутках хаты, асабліва доўга ўзіраўся на Янука, які прыціхшы, сядзеў, як бы зашыўся, на печы, і перастаўшы стругаць у задуменьні глядзеў сваімі прыгожымі вачыма наўдаль.

Відаць мала што прыгожага магло вабіць вока Ахрэма, бо па нейкім часе на твары яго адбілася думка спачуцьця.

—А ладны ў цябе, Настуля, хлапец удаўся. І спакойны ён у цябэ, ня чуваць каб на вёсцы жаліліся, як на іншых галаварэзаў. Ды й падрос ужо ладна. Хоць нявестку ты ўжо шукай сабе.—

Ў захоплены сам сваім жартам весела зарагатаў. Яго гучны голас сумражна пранесься па хаце і усхамянуў хлапца, як бы з далёкіх вышын скінуўшы ў не самавітую рэчаістасьць. Адразу зьмяніўшы выраз, пачаў зноў нешта надалей стругаць.

—Што ты там робіш, кавалер? Хадзі пахваліся—паклікаў Ахрэм хлапца, але той яшчэ далей забіўся за печ і прыціхшы не адзываўся. Ня любіў ён Ахрэма, а асабліва яго сына Сьцёпку, які вельмі над ім зьдзекаваўся і ня спыняемы бацькамі, з кожным днём усё болей і болей дапякаў хлапца.

—А я да вас па справе зайшоў, Наста! Вось бачыце вясна надыходзе й трэба вобчаству пастушкі.

Мы нанялі Сідара—салдата, але трэба яшчэ падпаскоў. Жыцьцё тваё ня ладнае, сама ты ня вельмі дужая, а хлапец ужо ніштo, дапамога ўва ўсякім разе табе будзе?!

—Ды я, ведаеце, як і сказаць, сама ня ведаю. Жыцьцё самі бачыце, ня ладнае, ды сына марнаваць жаласна—роднае дзіця.

—Маму! Пашлі ты мяне ў пастушкі на лета, Я ўжо бальшы і буду добра пасьцьвіць. Матульку, золатца, згаджайся!!

—Во, які ты малайдзец! Зноў зарагатаў Ахрэм, пляскаючы сябе далонямі па каленам.

—Далі бог, гэтагага малайца дык можна хоць куды! Просі, Янук, матку. А ты, Наста, гадзіся і пойдзем на сходку, там дзядзькі сабраліся чакаюць!

Доўга хвалявалася Наста. Шкода ёй аддаць Янука. Цяжка прыдзецца маламу хлапцу ў першую пору. Але жыцьцёвыя журботы, гэта доўгая бязупынная барацьба за права жыць, за кавалак хлеба, надламіла яе сілы. Як далей яна зможа Янку свайму забясьпечыць долю? Ці хопіць ёй далей здароўя так жа ўпарта працаваць, як дагэтуль? Ці зможа хоць як небудзь абучыць яго пісьменству? Ці пашле ў школу? Ці справіць кажух?—Думкі лётам—роем закружыліся ў галаве.

—Ну дык канчай печ паліць і прыходзь, там абмяркуем ўсё што трэба і як?

Падняўшыся з услону і цяжка ступаючы ботамі пайшоў Ахрэм з хаты, прыхільна кіўнуўшы Насьце галавою.

Як толькі зачыніліся дзьверы, куляй зьляцеў Янук з печы і з такім жарам стаў прасіць, каб маці яго адпусьціла, што ў той міжвольна заблясьцелі вочы і гарачая мацярынская сьляза, як буйны гарох, пакацілася па твары.

—Сынок, мой любы, дзіцятка ненагляднае!—і прыціснула да грудзей з усёй магутнасьцю матчынага каханьня, ласкаючы Янука.

—Дык пашлеш, мамка?! Так? Родная! Я табе буду памагаць і нам лягчэй, куды лягчэй будзе жыць. Ты ўжо так замарылася, а цяпер я табе памагу.

—Вось, бачыш, які я дужы, глянь! І схапіўшы дзежу прыпёршы яе да пуза павалок пад лаву.

—Дурненькі, што робіш, падарвешся, няможна гэтак дурэць!—манучыся адабраць дзяжу, прагаварыла Наста, але ўжо з урачыстым відам Янук стаяў, цяжка сапучы ля лавы.

—Бачыла?!

Цераз некалькі хвілін застанавіўшы засланку ў печы, на хутка падпарадкаваўшы хату Наста з Януком пайшлі на сходку, каб канчаткова вырашыць аб Януковым лёсе.

Шпарка бег па вуліцы, наўперадзі маткі Янук, як бы імкнучыся хутчэй вырашыць гэта надта цікавячае яго пытаньне. Весела бліщчэлі яго вочкі, з любоўю пазіраўшыя на матку, якая ў задуменьні паволі ішла за хлопцам.

Вельмі відаць не хацела яна аддаваць сына на цяжкую працу, ведаючы як прыкра будзе яму цягнуць лямку падпаска. Недасыпныя ночы, цалюсенькі дзень бегатні на сонцы і пад дажджом. Ці зможа яе Янук усё гэта перанесьці?

Але пусты засек, падарванае цяжкаю працаю здароўе і гэты пракляты кашаль, які пад вясну так апанаваў, гэтая вострая боль у грудзёх, мільгаценьне ў вачах—штурхала яе наперад за сыном, абязброівала яе.

—Ну што жа—разважала яна—будзе цяжка яму, але я за яго буду працаваць, буду сама раньнем уставаць сама пайду ў поле калі дрэннае надвор'е асабліва будзе. Усё мо' як небудзь перакідаемся.

Ужо недалёка і зборка. Некалькі хлапцоў і дзяўчат аднагодкаў Янука весела гулялі на вуліцы. Крык, сьмех, гоман. Сонейка весела, сваімі праменьнямі палыскала на іх тварах. Стрэхі плакалі буйнымі кроплямі вады, як бы шкадуючы, што апошні гладкі сьнег, як сьвяточная адзежа, так хутка зьнікае, адкрываючы іх заімшэлы храбет. Так прывольна, жыцьцёва навакол, ніхто здаецца не закрыйдзіў-бы нікога.

Вясна—жыцьцё так радасна б'е ў вочы.

Янук з маткаю падыйшлі да грамады і ступаючы павалі прайшлі далей. Зараз і зборка.

Сярод гуляўшых прайшоў нейкі шопат, потым усе галосна зарагаталі і, вылецеўшы наўперад Хведзька са Сьцёпкай, прылажыўшы рукі да вусн, што была моцы пракрычэлі

—Бай—ай—струк! Бай—ай—струк! А дзе твой тата—а?

Як агнём апякло Насту. Уздрыгнула ўся. Цяжка стаяла ў грудзёх. Глянула на зад—сьзёзы, павалокаю застлалі вочы.

А перад ёю Янук уткнуўшыся ў калені галавою, уздрыгіваючы скрозь слёзы шэпча.

—Маму, родная, чуеш? За што?...... За што?......

## IУ.

Усё часьцей і часьцей праходзяць па небу цёмнабурыя хмары, палошчучы зямлю дробным, як цераз сіта прапушчаным, дажджом. Пажоўкл ліст на дрэве і ад ма-

лейшага павеву ветрыка, спакойна адрываючысь, ляціць, кружыць і так-жа спакойна сьцелецца па зямлі.

Голае поле, дзе—недзе незааранымі загонамі, намокшае ад безперапыннага дажджу ўсім сваім відам гаворыць аб адыходзячай вясёлай пары. Падняўшаяся небагатая рунь на гэтых палетках, як малое безабароннае дзіця ня можа перамагчы засыпаючай прыроды.

Лета адышло. Звычайны васеньні дождж ужо ня першы дзень пырскае на убогую зямлю, дробнымі струмыкамі запаўзае за каўнер, мочыць наскрозь адзежу. Няма ніякага ратунку, а ён падмацованы суровым сіверам, як бы імкнецца канчаткова даканаць сваю ахвяру.

Усе хто толькі можа ня выходзяць з хат. І толькі вельмі тэрміновыя патрэбы, або які абавязак застаўляюць падстаўляць свае плечы, халодным яго ласкатаньням.

Панура павесіўшы галавы, ходзіць стада па ўжо аб'едзенаму лужку, і толькі ад няма чаго рабіць ліжа камелькі даўно абскубанае травы.

Разлажыўшы вагоньчык і прытуліўшыся да бярозы, што цэлаю чарадою, як бы на варце, стаяць паўздоўж бальшака, Сідар—пастух моўчкі сядзеў, сасучы сваю люльку, якую амаль ніколі не выпускаў з зубоў. Тут-жа побач з ім, у замэцганым андараку, накінутым паверх дзіравага кажуха, туліўся, грэючы задзярвянеўшыя пальцы Янук.

Ужо два гады ён пасе з Сідарам сельскае стада, звыкся з ім, і прагавіта слухае, што той гаворыць.

А паслухаць ёсьць чаго. Сідар, правандраваўшы пад час вайны ў арміі, многа чаго бачыў, шмат чаму навучыўся. Мо, каб не адарваная нага дык і ніколі ня ўбачыла бы яго вёска.

Гэта ён навучыў чытаць Янука і бывала пад знойным прыпёкам ня раз слухаў, як чытаў яго вучань, падабраныя ля чугункі кавалкі газэт, выкінутыя праз вакно вагону п р а я з д ж а ю ч ы м і. Якім-жа вялікім сьвятам было, калі ім ўдавалася выпрасіць цэлую, часам вялізную газэту. Хоць шмат чаго й не разумелі яны, але чыталі надта пра-

прагавіта. Сідар вельмі дзівіўся посьпехам Янука, які вельмі хутка стаў чытаць куды ляпей за яго.

— Янучок, глянь вуна каровы ў рунь зайшлі падбяжы адгані, сказаў ён, павярнуўшы галаву ў бок і заўважыўшы, што палова яго стада топча рунь.

Падняўся жвава падпасак і плёскаючы па вадзе пабег зганяць непаслухмянае стада. Як жа ён зьмяніўся за гэты час. Два гады налажылі свой адбітак на яго постаці.

Твар, некалі такі далікатны, загрубеў, жоўта-чырвоны запал моцным пластам залёг на ім. Пад ветрыкам загрубелыя рысы твару надалі новы выраз усёй яго істоце. Некалі бязьвінна-васільковыя задумёныя вочы, набралі сталёвы адценак, а рушучасьць погляду яшчэ болей падкрэсьлівалась двума маршчынамі, залегшымі ля вусн. Зьнікла недзе рухавасьць маладога хлапца, ня відаць жартаўлівае ухмылкі на яго заўсёды пахмурным твары.

Хутка справіўшыся са стадам, Янук, пахлопываючы вялізарным бізуном, вярнуўся—да вогнішча. Працягіваючы ногі ў намокшых лапцёх да вагню і закруціўшы шчыльней андарак, павярнуўся да Сідара і спытаў—дзядзька Сідар, раскажы, як гэта людзі ў горадзе жывуць. Ты жа быў у Менску, калі палякаў прагналі.

Мацней зацянуўся Сідар са сваёй люлькі і пакруціўшы рыжы вус, што непаслушна спаўзаў у рот пачаў ужо ня раз слышанную гісторыю аб тым, як яны наступалі, як яго раніла асколкам гранаты, як ляжаў ён у шпіталю.

Жвава перасыпаючы гутарку ўсялякімі, набытымі ў арміі прыслоўямі, весела рагочучы, над зусім звычайнымі і ня сьмешнымі падзеямі цягнуў Сідар сваё апавяданьне.

Але на гэты раз Янук ня слухаў яго. Ссутуліўшыся і ў даль утрапіўшы вачыма думаў аб нечым другім.

— А ты, дзядзька Сідар, бачыў як рабочыя жывуць,— перарваў яго неспадзявана Янук,—вось мы часта чытаем пра рабочых у газэтах дык там адно. А калі паслухаеш нашага Дзьмітрачонка Лявона, дык зусім іншае.—

Аж люлька вывалілася ў Сідара, зьдзіўлена паглядзеў ён на Янука, доўга круціў свой рыжы вус, паківаў галавою, нарэшце сказаў:

— Хоць невялікі ты яшчэ, Янук, можа шмат чаго не зразумееш, але відаць жыцьцё прывучыла цябе ўважліва адносіцца да вакаляючага. Дык слухай. Што наш Лявон— самы заможны на ваколіцы. Ён нашага брата бедняка, як хочаш пакруціць, ты да яго вясною і хлеба пазычыць, часам і грошы, ды мала чаго, як якая беда, дык куды? Комітэт слабы, нічога няма, ну і адна дарога да яго, а ён потым скуру зьдзярэць. А летась улада яго крыху прыціснула ,ну, дык ён цяпер на сьценку лезе супроць. А сам адзін што ён зробіць? Вось і ўцягівае ўсіх мужыкоў, якія па цемнаце сваёй, далей носа й ня бачуць.

— А як у горадзе скажы?

— Што, брат, горад? я там мала быў, але слухай вось што: пайшоў гэта я на сход рабочы, калі вышаў са шпіталю. Народу шмат, усе старыя й маладыя уважліва слухаюць прамоўцу, таксама мабыць нейкага рабочага. А той гаворыць, што пасьля палякаў, засталося ўсё паруйнованае, папаленае, паламанае. Трэба на нова адбудовываць. І так прыгожа гаварыў, ды ўсё фактамі. ,А потым калі стаў высьвятляць у якім стане рабочы жыве, у якіх умовах працаваць трэба—проста дзіва. Плацяць мала, на жыцьцё нават не хапае, кватэр няма, машыны ўсе старыя і шмат чаго яшчэ.

Потым пайшлі гаворыць тыя што, слухалі, па чарзе. І вось тутака я, Янучок, зьдзівіўся. Гэта каб на нашага брата па кавалкам разнёс-бы ўсё, што пад рукі папала. А там брат не. Замест таго, каб хныкаць, ды жаліцца альбо пагражаць, самі даюць парады, як ляпей і хутчэй направіць вытварчасьць. Ні табе адзін аб сваім бруху, усе за агульнае, за грамадзкае.

Дзівіўся гэта я на іх, але-ж калі даведаўся дык так яно й трэба.

Арганізацыя! Пралітарат!

Во, браток, дзе сіла! Калі за што возьмуцца дык трымайся.

Уважліва слухаючы пад увесь час прамовы, з бліскучыма вачыма Янук, аж уздыхнуў калі той кончыў. А Сідар, разпаліўшы аб вуголь сваю люльку, маніўся аб нечым яшчэ цікавае разказаць калі раптам павярнуўся ў бок дарогі, на якой паказалася мажара з нейкімі людзьмі ў чорных скураных сьвітках.

—Глянь, мабыць да нас камісары едуць!

—Няйначай як да нас—пільна ўглядаючыся адказаў Янук.

Параўняўшыся з пастушкамі, прыпыніліся незнаёмцы і адзін маладзейшы голасна запытаў:

—Таварышы, як да Грандзіч праехаць, пакажэце калі ласка!?

—Ды во проста, бальшаком, а за мостам зьвярнуць у права, паўвярсты ня болей, адна толькі й дарога.

—Дзякую—прыемна прагаварыў пытаўшы і затурзаў лейцамі каня.

—А ці не на сходку якую да нас едзеця? спытаў Сідар.

—Так, на сходку!

Замаркатала далей мажарка, раскідаючы ўва ўсе бакі гразь з пад калёс. Весела бег конік.

А ўсьлед ім глядзеў з нейкім таемным запалам у вачу Янук зусім ня слухаючы далейшых разважаньняў Сідара.

А дождж ліў ня спыняючыся. Хмары завалаклі ўвесь небасхіл. Яшчэ бліжэй падцягнуўся да вагню Янук, грэючы зусім задзярвянеўшыя рукі й ногі.

* *
*

Змоўкла хата Ахрэма. Ціха у ёй, нішто не парушае пакой змардаваных людзей. Сьпяць усе. І толькі Ахрэм, пахрапываючы са сьвістам даводзіць, што тут жывыя людзі. Ня сьпіць толькі Янучок на печы. Шырока адчыненыя

вочы, частыя ўздыханьні, ды шорах ад пераварачваньня з боку на бок што хвіліну, сьведчаць аб гэтым. Думы роем мятусяцца ў яго ў галаве. Усё жыцьцё дзень за днём праходзяць перад ім. У шчасьлівыя дні, калі ён разам з матуляю дзяліўся сваімі думкамі й уражаньнямі. Дні калі разам з ёю аплаківаў крыўду сваю, і зьнявагу. Успомніўся і дзень калі бяз маткі ён застаўся. Як доўга-доўга сядзеў на сьвежым могільніку, паліваючы яго сьлязьмі. І цяпер успаміны аб матцы, так гаротна пражыўшай свой кароткі век, выклікалі жаль, якім сьціснула яго дзіцячае сэрца. Заплакаў.

Успомніў два гады працы з Сідарам, якога цяпер пакідае. Шкода стала калекі салдата, які замест бацькі да яго добра адносіўся. Успомніў усё свае жыцьцё і ні нага не злаваў, ня жаліўся, ведаў цяпер што нязлыя яны, а толькі цёмныя някультурныя.

Асабліва доўга перабіраў у галаве той вечар, калі быў сход і прыехаўшыя доўга казалі аб беднаце, аб долі бядняцкай, аб тых шляхох, як выбіцца на лепшую будучыну.

Успомніў, як адзін з гарадзкіх з ім доўга гаварыў, цікавіўся жыцьцём яго. Як пацяшаў яго і урэшце даў паперку, якую Янук і цяпер трымае ў шматачцы за пазухай, якую ня раз чытаючы, загараўся запалам вырвацца хутчэй да сьвету, навукі. І цяпер абмацаўшы яе асьцярожна дастаў, разгарнуў і падыйдзя да вакна прачытаў:

—„Загадчыку дзіцячага гарадку!
Прашу прыняць хлапца Янку Самусёнка ў гарадок, у якасьці выхаванца, зьвярнуўшы асаблівую увагу на вывучэньне яго рамесцтву“.

Заг. АкрАНА РУДЫ.

Так, заўтра пайду па новаму шляху. Буду вучыцца, буду працаваць. Ах! каб была ты жыва, матуля, як бы ты цешылася разам са мною. З гэтымі вясёлымі думкамі заснуў Янук з ухмылкай на твары.

Раніцаю Ахрэм запрог каня і пасадзіўшы Янука павёз у горад.

Праяжджаючы цераз вёску ўсім прыхільна кланяўся Янучок. Сонейка апошнія дні аграваламі зямлю сваімі праменьнямі. У новай вопратцы і лапцёх, сваімі рукамі зарobленай, сядзеў Янук на возе і столькі радасьці, задавальненьня было напісана на яго твары, што гледзючы на яго Ахрэм таксама шчыра цешыўся.

Пад'яжджаючы да дому сельсавету ня выцерпеў Янук куляй саскочыў з калёс і ламануўся ў дзьвёры.

Там, у пакоі за сталом старшыні сядзеў Сідар, цяпер старшым, паважна разглядаючы паперы і растлумачваючы сялянам аб новым падатку. Глянуў на Янука, усьміхнуўся шчыра і разьвітваючыся сказаў:

— Глядзі, Янук! добра вучыся на карысьць Саветаў! Каб няйначай, як комсамольцам цябе бачыў!

— Я, дзядзенька Сідар, усё зраблю, буду старанным вучням.

— Ну, глядзі, буду ў горадзе заеду, чакай на гэтым тыдні.

Як сына роднага выправіў Сідар Янука, палажыў на воз мяшочак з нечым, сказаўшы «на чорны дзень», ёмка пацалаваў Янука і ўвайшоў на ганак.

З разчырванеўшымся тварым вітаўся Янук з усімі і ад'яжджаючы яшчэ раз абярнуўшыся да Сідара ўсьміхаючыся голасна сказаў:

— «А галоўнае, арганізацыя, дзядзька Сідар, і пралітарат»!

Сонца весела ласкала ад'яжджаючага хлапца і паганяемы моцнай рукой, Ахрэма конь, хутка скрыў іх з вачэй. І паехаў Янка ў сьвет.

«Да новага жыцьця!».

Зьм. Астапенка.

(Мсьціслаўская група „Маладняк“)

## У НАВУКУ.

Звоніць восень ў суччах клёнаў,
Лістам сьцеле па зямлі.
Ой, абсыпаўся зялёны
Кучарава-стройны лес.
У паднабесьсі мутна-сінім
Буйным ветрам на узьвей
Носіць шыбка павуціньне
Соткай срэбраных ніцей.
Я пад шум апаўшых лісьцьцяў
Даараўшы паласу,
На зіму свой плуг абчысьціў
Серп павесіў і касу.
І сабраўшы ў шлях катомку,
Сукаваты ўзяўшы кій,
Засігаў я грузна, ёмка
Па дарозе ўдоўж ракі.
Далей... далей... вёсак міма,
Там, за лесам, за гарой
Працаваць я буду зіму
Вёскі цёмнай земляроб.
Па дарозе ў здоўж каменьне,
Эх, працоўнае жыцьцё!..
Ў летку—плуг, зімой—вучэньне
Ёсьць разгул і воля ё.
Звоніць восень ў суччах клёнаў
Лістам сьцеле па зямлі,
Да вясны бывай, зялёны,
Кучарава-стройны лес!..

**Ал. Карачун.**

# УСХВАЛЯВАЛІСЯ ДУМКІ НЯ ПРОСТА.

Усхваляваліся думкі ня проста....
Ну, скажы мне з чаго пачаць?
Выйду, выйду на жытнюю постаць
Слухаць песьні вясковых дзяўчат.

Дзён ліхіх праняслася пагоня,
Сонца шле ім праклёны ўздагон
Слухаў новую я сягоньня....
Дажынковай зьвінеў загон.

Навівай песьня радасьці кросны,
Гулкім рэхам зьвіні мацней....
Комсамолка ўвечар росны
На дажынкі пазвала мяне.

Ад таго у вачу ня цямней,
Што прад ноччу дзень хіліць калені.
Між вакон на сасновай сьцяне
У аржаных калосьсях Ленін.

Сыпле сказы дакладчык суквецьцем,
Водар гоніць з галоваў чад.
Расказала пра ўсё на сьвеце,
Хоць з вясковых сама дзяўчат.

Узрастала яна ня ў выгодзе
Вачэй—погляд вастрэй нажа,
Абяцала пабыць на заводзе
Расказаць пра жытнёвы ўраджай.

Ускалыхнуўся ад буйнай песьні
Каля пуні прысадзісты клён,
Буду я аб дажатым снапе сьніць
Ў гэты вечар сінейшы за лён.

Усхваляваліся думкі ня проста....
Сёньня я не магу маўчаць.
Выйду, выйду на жытнюю постаць
Слухаць песьні вясковых дзяўчат.

Жнівень 1926 г.
Клімавічы.

**Юлій Таўбін**

(Мсьціслаўская група „Маладняк.“).

* * *

Ну-ка, раз хоць
Бяз журбы...

Можа казка,
Можа быль?

Думкі роем
Загудуць:

Усё благое
На заду.

Хай сваволіць
Маладосьць!

З намі доля.
Новы лёс!

Юнай песьняй
Залiюсь:

На прадвесьні
Беларусь!

На прадвесьні
Лепшых дзён...

Сьвеціць месяц
З-за вакон.

Сьвецяць зоры.
Льлюць агні..

Сьнеў бадзёры.
Зазьвіні!

Сьвецяць з ласкай
Бяз журбы...

Ой, ня казка—
Гэта быль!

---

**Янка Панамароў.**

(Мсьціслаўская група „Маладняк“).

## НІКНЕ ЎЖО ДЗЕНЬ.

Нікне, згасае ўжо дзень,
Захад бліщчыць пазалотай.
Сонца купае ў вадзе,—
Косы свае за балотам.

Туліцца гоман у мгле.
Шэлест лясны ледзь чуваць.
Месік ужо забялеў.
Шастае шумна трава.

**В. Е Радчанка.**

(Хоцімская група
«Маладняк»)

# ПЕСЬНЯ

Нахілясь на раку,
Пасярод лазьняку
Куст ракіты гаёчкам стаіць.

І аб чым-та свой век,
Як які чалавек,
Сам з сабою ўсё шапаціць

І ніхто яго знаць,
Слоў ня можа паняць,
Што чапаюць душу заўжды.

І нясуцца ў даль,
Толькі чутна, як жаль,
Аддаецца гучней ад вады

---

Так аднойчы пад ім
У задуменьні сваім
Сіраціпка Ягорка сядзеў
І пад шопат ракіт,
Як пра іх быццам быт
Песьню гора ліхога запеў.
Спадабаўся пясьняр
За вялікі свой дар
Нізкаросным ракітам старым
Што ён пеў, як яны,
Тыя думкі адны—
Аб праўдзівым нядаўным бы-
лым.
І яны абнялі,
Як матулька калі
Абнімае дзіцятку свайго,

Распушчоным гальлём
І ў цяньку ў сваём
Прыласкамі, качая яго.

Аўгінка Вігура.

## НЕАБХОДНАЕ.

Першы раз ён спаткаў яе, ідучы дамоў пасьля гудка, а потым яшчэ некалькі разоў.

Ён заўсёды хадзіў гэтым шляхам, але раней яе ня бачыў, відаць, яна цяпер толькі тут недзе пасялілася. Кожны раз яна йшла з кніжкамі, пэўна з гімназіі, пекная, прыбраная, зьзяючая сваім хараством, сваёй панскай прыгожасьцью. І кожны раз ён ведаў, што спаткае яе і яму было прыемна аб гэтым думаць. А як устрэне, усьміхнецца сам сабе. Яна яго не прыкмячала, а калі прыходзілася сустрэцца з ім поглядам, то яна зараз-жа адводзіла вочы й нічога яны не выражалі. Глядзела на яго, як заўсёды глядзяць на кожнага сустрэчнага па вуліцы.

Ды й ці ёй-жа панскай дачцы, заглядацца альбо проста зьвяртаць увагу на якога там рабочага. Мала іх!

Ён гэта добра ведаў і ўсё-ткі з прыемнасьцю чакаў гэтага спатканьня і калі ўлаўляў яе погляд, нейкая асалода напаўняла яго ўсяго.

Яму як-то ўдалося разьведаць трохі аб яе жыцьці ад свайго таварыша, які зьмяшчаўся ў падвальным этажы вялізарнага будынку, дзе жыла яна з бацькамі. Яна—адзіная дачка багатага пана, які займаў адпаведную пасаду ў гэтым горадзе. Маёнтак яго знаходзіўся недзе далёка адсюль, і апрацоўваўся многалікай чэлядзьдзю. Раскazваючы аб гэтым, таварыш некалькі разоў моцна аблаяў усіх падобных дармаедаў і ў душы нашага Сяўцова таксама яшчэ раз варухнулася завідасьць да лепшай долі, лепшага жыцьця тых багацеяў, што жывуць у вялізных палацах, што ня ведаюць ні гора, ні турбот.

У такім настроі ён вышаў з заводу. Хацеў зьвярнуць і пайсці іншым шляхам, каб не спаткацца з тэю, з панен-

каю, але тут-жа яму стала сорамна самога сябе. „Малы я, ці што“,—падумаў ён і рашучымі крокамі накіраваўся дамоў.

Завярнуўшы за знаёмы вугол, ён трохі затрымаўся, пакуль праз тратуар пераяжджала цяжолая каламажка з каменьнямі, якую вязьлі чатыры рабочых. Яны занялі ўсю шыр тратуара, так што яму прыйшлося прыціснуцца да сьцяны суседняга дому.

„Дазвольце прайсьці, калі ласка“, пачуўся каля яго мілагучны голас. Ён як-та ўздрыгнуў, нялоўка адхінуўся і знаёмая дзяўчына ў белым адзеньні прайшла міма, чуць зачапіўшы яго сваёю сукенкаю і заставіўшы па сабе прыемны пах одэколёну.

Ад яго нядаўнага настрою не засталося і сьледу, як быццам тая варожасьць, якая бурліла ў яго нутру супроць усіх багацеяў—не датычылася да яе, абыйшла гэту прыгожаю, чужую яму паненку і яе вобраз застаўся непарушаны, яскравы і, як раней, маніў яго к сабе сваім далёкім харастовм, сваею няпрыступнасьцью. Ён правёў рукой па вачох, як бы адганяючы ад сябе нейкае зданьне і пашоў.

Праз некалькі дзён яму давялося ехаць у трамваі. Ён стаяў на пляцоўцы і здалёку убачыў яе. Яна на прыпынку чакала гэтага самага трамваю. Калі ёй трэба было садзіцца, кнігі яе як-то выказнуліся і разсыпаліся. Яна пасьпешна стала зьбіраць іх. Ён саскачыў, дапамог ёй сабраць і падтрымаў яе, калі яна ўлазіла. Яна як-то засаромелася, пачырванела і кінула на яго падзячны погляд. „Шчырае вам дзякуй“ і зайшла ў вагон.

Адкрытыя шэрыя вочкі і такі мілы, знаёмы твар. Хутка ён зьлез, але гэта маленькае здарэньне зрабіла зноў вялікае ўражаньне на яго ўзбуджаныя думкі. Некалькі дзён ён ня мог зразумець, што з ім робіцца, ён злаваўся, вінаваціў сябе ў маладушнасьці, у нястачы волі, уразумляў сам сябе, што ён глыбока памыляецца і амаль-што ня робіць злачынства, калі прысьвячае столькі думак і сумоты гэтай дзяўчыне, якая можа зусім ня варта гэтага,—але ўсё пра-

ходзіла дарэмна. Розум казаў адно, а нейкая няслухмяная істота, якая дакучна варушылася ўнутры—казала зусім іншае і гэта іншае было такое сьветлае, вабячае, што першае павінна было ўрэшце адступіць.

Так ішоў час. І вось узварухнуўся сьвет. Хваляй пракацілася рэволюцыя. Магутная й дзіўная яна крышыла і ламала стагодзьдзямі замацаваныя парадкі. Упарта браў сваё пакрыўджаны і пакутны народ. І рабочы Сяўцоў таксама быў ахоплен агульна-людзкім пачуцьцём.

Ён разам з усімі рабочымі працаваў, біўся на барыкадах, ляцеў з аднаго месца на другое, падтрымліваў, дапамагаў дзе трэба было,—адным словам, ствараў рэволюцыю, захапляўся гэтым, быў абураң сваёю перамогаю. Першая рэволюцыя—час агульных схватак, другая рэволюцыя, яшчэ некалькі баявых хваляў і немагчымае збылося.

І вось ён стаіць, быўшы нявольнік закованы ў ланцугі, малады, яшчэ толькі нарадзіўшыйся дзеля новага жыцьця, стаіць горда, трымаючы ў руках абароненыя ў бойцы, аблітыя крывёю сьцягі, адчувае ўсё вялікае значэньне свае новае ролі, накладаемых ёю абавязкаў.

І Сяўцоў адчуваў сябе таксама хоць мізэрнай, але-ж часткай гэтай магутнай грамады. Усё здарыўшаеся павярнула яго думкі ў другі бок, настроіла яго нейк урачыста і тое, што упярод было, здавалася яму далёкім і непатрэбным. Ён, як і тады працаваў на тым-жа заводзе, перабраўся на другую кватэру, бліжэй да цэнтру і ўвесь аддаўся політыцы, з захапленьнем чытаў, наведваў сходы завадзкой парт'ячэйкі і рыхтаваўся ўступіць у партыю. Ён цяпер ведаў сваю мэту і гэта паднімала яго ва ўласных вачох.

Разгарэлася грамадзкая бойка. Ён быў адным з першых мабілізаваны на фронт. Зноў закіпела ў ім энэргія, зноў з усім запалам рынуўся ён на ворага, забываючы сябе дзеля агульнай справы, бо яна была таксама і яго справай, уласнай, сваімі рукамі ўзгадаванай.

Пасьля цяжкай раны, прабыўшы два месяцы ў шпіталі, ён зьвярнуўся зноў у свой горад, залічыўшыся ўжо сябром партыі. Ен адчуваў патрэбу ў адпачынку і заслужыў яго. К гэтаму часу уціхамíралася бойка, апошнія сілы краіны былі напружаны і вораг разьбіт. Краіна пачала павольна апраўляцца.

Аднаго разу сядзеў ён у задумленьні ў садзе на лаўцы і няўважна сачыў за грамадой, якая снавала міма.

Тут яго погляд затрымаўся на нейкай жаночай фігуры, якая чагось пільна шукала на сьцежцы сада. Абліччa яе паказалася яму знаёмым, але ён ніяк ня мог успомніць, дзе яе бачыў. Ён прадаўжаў з свайго месца сачыць за ёю і раптам у розуме мільганула белая постаць, выпаўшыя кніжкі і калісь-та такі любы і далёкі яму твар. Ну але, ён не памыляецца, гэта яна і ёсьць. Ён усьміхнуўся. Захацелася падыйсці й загаманіць з ёю, але ён злавіў сябе на гэтай думцы і дасадліва закусіў губу. „Што гэта, падумаў ён, здурэў я, ці што? Што ў мяне з ёю агульнага, мала што калісь было“- і нават зьвярнуўся ў другой бок і стаў пільна разглядаць рыжую кудлатую сабачонку, якая ціснулася, каб пралезьці паміж вузкімі шчылінамі паркана, агібаючага сад і пішчэла, не знаходзячы выхаду.

Але вочы міма волі зьвярталіся зноў туды, назад. „І што ёй тут трэба, думаў ён злосна, чаго яе сюды падагнала“. І гэта прызнаньне, што ён ня можа зусім бяз увагі аднесьціся да яе прысутнічаньня паблізу яшчэ больш разбурала яго злобу. Урэшце ён ня вытрымаў: „Да чаго я баюся? Ці мне ня можна рабіць тое, што я хочу“. Ён устаў і паціху пайшоў па сьцежцы к ёй. Яна ўвесь час нешта шукала. Падышоўшы бліжэй, ён затрымаўся.

„Што вы страцілі, таварыш?“ спытаўся ён і гэта слова „таварыш“ разанула па вуху яго самога. „Ці-ж яна мне таварыш, падумаў ён, мне, рабочаму, сябру партыі гэта быўшая панская дочка“. Але—сказаўшы, нічога ўжо ня зробіш. Яна ўскінула на яго погляд. Тыя самыя шэрыя вочкі, якія калісь з такою цадзячнасьцю глядзелі на яго ў

трамваі. Ён зноў злавіў сябе на гэтым успаміне. „Да што гэта, падумаў ён ужо з турботаю, няўжо я так раскіс, што не магу ўзяць сябе ў рукі“.

«Так, нясла адну маленькую рэч і неяк страціла» адказала яна і чамусь-та, як і тады, пачырванела.

—Скажэце, можа я буду шчасьлівей за вас і знайду, —прамовіў ён і зьдзівіўся, ён гэта кажа, ці хто іншы за яго? Яна з недаверрам глянула на яго, як бы думая, казаць ці не гэтаму незнаёмаму мужчыне аб сваёй пакуце, а потым з замяшаньнем растлумачыла: „так, крыжык нясла нацельны“,—і зусім ціха дабавіла,—„знаёмаму аднаму“.

Ён адразу зразумеў: «есьці нечага, прадаюць быўшае багацьцё» падумаў ён і нейкае пачуцьцё зларадасьці і разам жалю сьціснула яго. Радасьць злая—як рабочага к быўшым валадарам, якія цяпер раздаўлены і прымушаны цягнуць тую лямку, якую калісь цягнуў ён і мільлёны іншых, а нейкі палахлівы жаль—гэта асобна да яе датычыўся і зусім не залежыў ад разважаньняў розуму. І ён моўчкі пачаў шукаць разам з ёю гэты залаценькі крыжык. У чым бы не стала ён павінен яго знайсьці! І ён не памыліўся. Хутка ў зялёнай мураве збоку сьцежкі заблішчэла нешта і ён неяк асьцярожна падняў яго дзьвумя пальцамі.

—„Ну, ці не казаў я, што я шчасьлівы, засьмяяўся ён, маеце вашу рэч“. Яна ўзрадавалася.

„Шчырае вам дзякуй“ адказала яна, як калісь, а шэрыя вочкі таксама яскрава глядзелі на яго. Толькі нешта зьмянілася яна ў параўнаньні з мінулым: пахудзела і нейкі таемны смутак часамі набягаў на яе твар.

„Я ўжо думала, што не знайду“.

—„Вас трэба зарыштаваць,—усьміхнуўся ён, у вас маецца золата, якога цяпер ні ў каго ня знойдзеш“. Тут жа ён адчуў, што сказаў непатрэбнае.

„Арыштуйце, проста сказала яна, гэта—апошняе, што ў мяне ёсьць“.

Ён як-то не знайшоўся, што сказаць і каб зьнішчыць нялоўкае маўчаньне нарачыта вясёла зьвярнуўся да першай гутаркі.

„Але чым жа вы мне заплоціце за маю паслугу?".

Яна смуцілася: „нічым не магу, акрамя як яшчэ раз падзякаваць". Ён зноў пакаяўся, што зрабіў глупства і каб не сказаць яшчэ чаго непатрэбнага падаў руку, як старой знаёмай, хаця яму вельмі хацелась б яшчэ з ёю пабыць: тады бывайце, пакуль што. Цяпер калі дзе ўбачымся—спадзяюся, што будзем знаёмы". Яна неўразумела глянула на яго, але руку падала. Пэўна падумала штонебудзь дрэннае.

—Некалькі дзён пасля таго ён ня мог заўладаць сваімі растрывожанымі думкамі. У гуртку таварышоў—нічога, а вось як застанецца адзін, так і глядзяць на яго любыя шэрыя вочкі і становіцца нейк маркотна. Ён супакойваў сябе, уразумляў, стараўся уйсьці з галавою ў працу і—нічога ня выходзіла: шэрыя вочы, сумны твар неадступна вартавалі яго. Як яна зараз жыве, што з ёю было за гэты час, можа яна ўжо замужам, дзе яе бацькі—гэтыя думкі круціліся ў яго галаве. Аналізуючы свой настрой, ён упэўніўся, што калі за такі доўгі час не забыў яшчэ яе, то цяпер, калі убачыў і пазнаёміўся з ёю—гэта ўжо немагчыма і рашыў аб усім разьведаць пры першым падрушным выпадку. Гэтага доўга ня прыйшлося чакаць.

Быў цёплы адвячорак. Ён ішоў зноў тым-жа садам з партыйнага сходу, на якім разгарэліся бурныя спрэчкі з прычыны аднаго заводзкага здарэньня і знаходзіўся яшчэ пад уплывам усяго адбыўшагося.

Але хутка цішыня і цяплынь навакол зрабілі сваё і думкі яго накіраваліся ў другі бок. Якраз тут заўважыў ён сядзеўшую ў задумленьні на лаўцы адзінокую фігуру і чамусь-та быў упэўнены, што гэта яна.

Яна-ж пачула нечыя крокі і азірнулася. Ну але, вядома, яна.

Ён прыпадняў картуз.

—„Добры вечар, здаецца знаёмы“.

—„Добры вечар“,—адказала яна.

—„Дазвольце прысесьці“.

—„Калі ласка“ і яна крыху пасунулася.

—„Можа я вам перашкаджаю“—, спытаўся ён, садзючыся калі яе.

„Ды не, чым-жа вы мне можаце перашкодзіць, сядайце“.

—„Чым? мала чым. Можа вы тут чакаеце чаго ці каго, можа марыце аб чымсь, да мала яшчэ якія могуць быць справы ў маладой дзяўчыны“.—ён баяўся паказацца назойлівым і разам з гэтым яму хацелася вызваць яе на жывую гутарку. Яна глянула на яго і усьміхнулася.

—„Не, нікога не чакаю і ні аб чым ня мару“.

—„У такім разе выбачайце, альбо дазвольце запытацца, ці даўно вы жывеце ў гэтым горадзе?“.

—„Да ўжо ня мала, мы тут жылі яшчэ да рэволюцыі“, і зноў нейкі смутак агарнуў яе белы твар.

—„Вы кажэце «мы», зноў запытаўся ён, што ў вас—сям‘я?“.

—„Зараз я жыву з мамаю. Быў бацька, да ўжо гады са тры, як памёр“.

Ён убачыў, што закрануў балючае дзеля яе пытаньне і пашкадаваў аб гэтым. Абое замоўклі: ён думаў, ці сказаць ёй тое, што так круцілася на языку, а яна мусіць разважала чаму так дапытваецца аб яе жыцьці гэты зусім чужы чалавек, а можа проста была ахоплена ўспамінамі. Урэшце ён рашыўся.

—„Ведаеце, пачаў ён, вас мусіць дзівіць, чаму я аб гэтым пытаюся. Нават залічыце мяне якім няскромным, альбо зусім нахалам, але я вас прашу, ня думайце так. Вядомая рэч, ніколі бы мы не пазнаёміліся, бо крыжык гэта

быў толькі повад у мяне, каб падыйсьці да вас, калі-б я ня быў зацікаўлены вамі. А зацікаўлен я таму, што ведаў вас раней, яшчэ ў стары час і цяпер, спаткаўшыся, мне вельмі захацелася з вамі пагутарыць“.

Спачатку яго тон зьдзівіў яе, а потым шэрыя вочкі палахліва утаропілісь у яго твар.

—„Вы мяне ведалі? а я-ж вас нешта не памятаю“. Ён балесна усьмяхнууўся.

—„Дзе-ж вам было мяне ведаць! Успамяніце якая вы былі, а я—чалавек звычайны, нізкі, як вы заўсёды звалі. А мы, бачыце, зробілі тое, што вы і ня сьнілі: здолелі сьвет перевярнуць, здабылі сабе свабоду, вольнае права чалавечае“.... ён гаварыў з натхненьнем, упіваючыся сваімі славамі, як бы жадаючы выказаць усё адразу, укалоць яе, як можна балючай. Калі ён спыніўся, яна ціха сказала:

—„Навошта вы мне гэта ўсё гаворыце. Я сама ўжо шмат перадумала і урэшце пераканалася, што так павінна было здарыцца, што гэта—неабходнае. Вы не павінны мяне дакараць і маім мінулым, бо размысьліце самі, чым-жа я вінавата. Калі я ўзгадавалася ў такіх абставінах, то гэта было натуральна, пасьвяцона звычаямі“.

—„Выбачайце, з запалам перапыніў ён яе размову, а хто гэтыя звычаі установіў? хто даў вам права расьці ў такіх абставінах, а мне, напрыклад, у іншых?“.

Яна зноў таксама ціха сказала:—„ніхто“.

Ён думаў, што яна пачне спрачацца з ім, але атрымаўшы такі проста вымаўленны адказ, ён змоўк. «Што я ёй хачу даказаць,—спытаўся ён у сябе,—калі яна і так ужо добра ведае на справе, хто з нас дужэйшы, хто праў, а хто—не, а калі й ня згодна, то што мне да гэтага?». У яго зрабыўся вясёлы настрой.

—«Ну добра, пакінем гэту гутарку,—лагодна загаманіў ён, давайце казаць аб чымсь іншым».

—«Давайцэ сабе, згадзілася яна, толькі мне хацелася б вас папярэдзіць...—яна замяшалася,—папрасіць.... магчыма, што мы яшчэ будзем сустракацца, каб вы аб гэтым ніколі не казалі, бо я шмат пацярпела пакуты за гэты час. За тое, што я нарадзілася і ўзрасла (яна як-та гаротна скрывілася) ў лепшых умовах, чым напрыклад вы, я ўжо пакарана больш як трэба і,—кінем аб гэтым».

Калі ён пачуў вялікую боль у яе словах, яму стала шкада яе. Ён ўжо ня бачыў у ёй клясавага супрацўніка, а бачыў толькі даўно вядомую дзяўчыну, якой прысьвяціў столькі думак. Любыя шэрыя вочкі глядзелі на яго з такой журбою, так упросьліва, што ён ледзьве утрымаўся, каб ня выказаць ёй свайго пачуцьця. Зараз іхная гутарка перайшла на іншыя тэмы. Яна ажывілася і была вельмі цікавай размоўцай. Потым першая схамянулася, што пара ўжо ісьці дамоў. Ён паглядзеў, было ўжо палова першага. Абое не заўважылі, як праляцелі гадзіны. і пры разьвітаньні кожны пра сябе пажадаў, каб яшчэ калі убачыцца.

Цяпер зусім іншым стала жыцьцё Сяўцова, нават настрой павысіўся. Ён перастаў разважаць з сабою наконт свайго захапленьня. Што ён любіў яе, у гэтым ён ня сумляваўся, бо як-жа йначай завецца тое пачуцьцё, якое запаўняла ўвесь яго розум у вольны ад працы час. Але, толькі ў вольны, бо калі ён быў заняты каля варстата, або на партсходзе, то ніколі яго думкі не адхіляліся ад свае справы, ня траціў ён дарма працоўнага часу.

Другія рабочыя заўважылі, што ў вольны ад працы час ён унікаў іхнага сатаварыства, супольна з імі ня гуляў, а некаторыя бачылі яго з некай дзяўчынай і паведамілі аб гэтым астатніх. Тыя пачалі надсьмяхацца над ім. Ён чырванеў і адмаўляўся, як мог. Ён прывык заўсёды быць праўдзівым з сябрамі і гэта таемнасьць, якою ён акаляўся, каб скрыць свае каханьне, каб ніхто не разьведаў пра яго ўхажорства за панскай дачкой, гэта таемнасьць пужала яго, а іначай зрабіць ён ня мог.

І калі заставаўся ён адзін на адзін з ёю, то тады ўжо ён адчуваў, што шчыра, моцна яе кахае. А яна? яна таксама кахала яго. Спачатку як-то палохалася, часам у ёй адбівалася й гордасьць, але потым пазнала яго бліжэй і ён ёй спадабаўся. Маладасьць брала сваё, а жыцьцё было такое цяжкае, столькі прыйшлося перанесьці гора ў сям'і, калі пачулі, што ўвесь іх вялізарны маёнтак зруйнаваны дашчэнту і ад быўшага багацьця не засталося і сьледу; гэта зрабіла такі ўплыў на яе бацьку, што ён пахварэўшы з паўгода, памёр, а яны з маткаю прымушаны былі амаль што жабраваць, пражыўшы тое, што было пры іх. Такім чынам, юнасьць яе працякала нерадасна, бяз усякіх уцех, неабходных гэтаму ўзросту.

Зразумела, чаму яна хутка паддалася ўплыву Сяўцова, які ў сваю чаргу быў пераможаны яе хараством і яе, як яму здавалася, шчырасьцю. Што-ж а ў выніку? Тое, што заўсёды бывае ў такім выпадку?

Праз паўгода Сяўцову было вельмі прыемна гуляць па садзе з маладой і прыгожай жонкаю, на якую заглядаліся сустрэчныя, толькі ён старанна таіўся і замаўчываў, калі таварышы запытваліся—хто і адкуль яго жонка. Гэта адно яго сароміла. А яна? яна была здаволена сваім новым становішчам. Жылі яны ў дастатку, ўсяго хапала. Ну, вядома, не так, як калісь-та жыла яна, але ў параўнаньні з яе апошнім жыцьцём гэта быў рай.

Маці сваю яна заставіла на тэй-жа кватэры, (такое было жаданьне мужа) часьценка наведвалася да яе, дапамагала і тая таксама не адчувала ні ў чым патрэбы.

Усё йшло добра. Былі калісь маленькія непаразуменьні паміж мужам і жонкаю: то ён позна зьявіцца з сходу, то яго таварышы прыдуць у ботах, навалакуць гразі і запэцкаюць чыста вымытую падлогу, і яна тады брыдліва падцірае яе, бурчачы на мужа, наракае, што трэба ўзяць якую-сь дзяўчынку дзеля «чорнай» працы, бо ёй, цяжарнай жанчыне, ня лёгка гэта рабіць.

Сяўцоў утрымліваўся ад спрэчак з ёю, але ў душы падымаўся цяжкі протэст супроць яе. Ён тады стараўся сыйсьці куды і там праводзіў час ці ў працы, ці ў размовах з таварышамі, якія ўжо ведалі аб яго сямейных недарэчнасьцях, шкадавалі яго і выказвалі гэта. А ён тады ня ведаў, што ім адказваць і маўчаў.

У апошнія месяцы яна стала такою непакойнаю, так злавалася з-за кожнага глупства, што ён зусім ня ведаў, што з ёю рабіць. Яна вымагала, каб ён неадступна быў з ёю, дакарала, што ён аб ёй зусім ня рупіцца калі йдзе на свае розныя непатрэбныя сходы і г. д.

Ён тлумачыў гэтыя прычэпкі яе становішчам, стрымліваў свой гнеў, ласкава ўразумляў яе, што сходы наведваць ён павінен, што сядзець пры ёй таксама няма сэнсу і толькі чакаў, каб хутчэй усё гэта скончылася, чакаў дзіцёнка, на якога зараней перанасіў усю сваю ласку, усе клопаты.

Яна радзіла сына, якога назвалі Паўлам па дзеду з боку бацькі. Гэта тож выклікала спрэчкі: маці нізашта гэтага не хацела, а Сяўцоў настоіў.

Гэта маленькае стварэньне надавала глыбокі жаль мяккай натуры Сяўцова. Ён адчуваў сябе бяз канца абавязаным перад ім, не толькі як бацька, а неяк яшчэ больш і даваў сабе абяцаньне выгадаваць з яго добрага і падрыхтаванага да жыцьця чалавека,—не такога, як я,—дадаваў ён пра сябе, бо ўжо шкадаваў, што зрабіў неразважны крок у жыцьці, што ня змог кіраваць сабою, як трэба было.

Далейшае даказала яму, як ён глыбока памыліўся. Жонка бачыла, як ён адносіцца да сына, як ён усе турботы перанёс на гэтага маленькага чалавека і сязнавала, што аб ёй, аб яе існаваньні ў ложка сына ён зусім забыў і, наогул, не прызнае яе ўдзелу, а значыцца і яе права ў выхаваньні сына. Акрамя таго яна разумела, што любіць ён сына зусім не з-за яе, не таму што гэта яе дзіцёнак, а

любіць як будучага барацьбіта. І яна пачала раўнаваць свайго мужа к сыну: ёй хацелася, каб муж любіў яе больш чым сына, яна добра бачыла, што гэтага ніколі ня будзе, што муж амаль што разьлюбіў яе і яна злавалася, апастылялася з ім і атручвала іх супольнае жыцьцё, а гэтым яшчэ больш адхіляла яго ад сябе. Ён спачатку не дапушчаў такой думкі, а калі зразумеў, то яна адразу неяк спрыкрылася яму, ён узьненавідзеў яе.

Зноў напалі на яго дакучныя думкі, ён сазнаваў цяпер, што зрабіў вялікую памылку, жаніўшыся на гэтай жорсткай жанчыне, бо яна ня зможа даць яму таго здавальненьня, якое ён жадаў-бы атрымаць ад жыцьця. Каб адагнаць гэтыя размовы, ён сьпяшаў к ложку свайго дзіцёнка і, любуючыся на яго, трымаючы ў руках невялічкае, кволае цельца, забываў усе недарэчнасьці і, здаецца, каб яна падыйшла цяпер да яго ласкава, з пяшчотаю, пагаманіла з ім шчыра, адкрыта, ён бы прасьціў яе крыўду, і ўсё было-б добра. Але яна чуралася, нават зусім адыходзіла кудысь, ён заставаўся ўдзьвух з сынам і пачынаў размаўляць з ім, называў рознымі ласкальнымі назвамі, песьціў, галубіў яго і толькі калі ўжо трэба было ісьці на працу—пакідаў яго. А хлопчык рос такі прыгожанькі, кучаравы, так сьмешна пачынаў ужо разумець і адказваць на ўсе зьявішча, адбіваючыяся навакол яго, што бацька проста захапляўся. А калі ён пачаў нешта гутарыць на сваёй дзіцячай мове і нясьмела зрабіў першыя крокі,—трэба было бачыць у гэтыя хвіліны шчасьлівага бацьку!

А супярэчнасьці паміж імі ўсё расьлі і часта раззлаваўшыйся Сяўцоў, ня маючы сілы сутрымліваццa, груба крычаў на жану. Тая плакала не ўступаючы яму, называла яго мужычкай, хамам, громка скардзілася на сваю гаротную долю, прымусіўшую яе выйсьці замуж за такога непадыходзячага да яе чалавека, папракала яго, чаго ён яе браў, бегла ў другі канец горада да маткі, дзе таксама плакала і выла.

Маці, хоць і шкадавала дачкі, але параіць нічога не

магла, бо іншага выхаду ня бачыла: у яе самае нічога ня было і яна жыла на сродкі Сяўцова.

У адну з такіх бурных хвілін, калі жана яшчэ раз памянула Сяўцову адзін з сваіх любімых сказаў, ён, не ўладаючы сабою ад гневу пабіў яе, схапіў на рукі плачушчага сынка і выскачыў з кватэры.

«Мама, мама» плакаў дзіцёнак, бачыўшы гэту падзею. Пацалункамі і рознымі абяцаньнямі ўгамаміў ён свайго Паўлушу, купіў яму цукерак і, пусьціўшы яго гуляць з дзецьмі ў саду, сам сеў побач, па тэй лаўцы, две калісьта першы раз гаманіў з ёю, і задумаўся. Ён не асуджваў свайго учынку, бо лічыў яго правідловым, ён толькі дзівіўся, якую здольнасьць мае гэта жанчына давадзіць яго да такога становішча, калі ён нічога не разумее, робіцца амаль што няпрытомным, ён, такі добры спагадлівы чалавек, якога любяць і паважаюць таварышы, які так лёгка і прыемна адчуваў сябе гады тры назад, пакуль не зьвязаўся з ёю. І як ён дапусьціў сябе да гэтага, дзе быў яго розум, дзе падзелась яго пролетарскае пачуцьцё? Звар'яцеў, больш нічога! Але яна, тож ладная цацка! Прыкінулася такой пакорнай, пакрыўджанай: «я, кажа, ведаю, гэта неабходнае. Бяз гэтага не магло абыйсьціся, але я пакарана за гэта». У, панскі вырадак пракляты! А гэта таксама неабходна? сапсаваць жыцьцё, дзіцёнка...

А дзіцёнак-жа... і калі ён убачыў яго, розавенькага, вясёлага у гуртку другіх дзяцей, вялікі жаль сьціснуў яго сэрца: вось хто адказвае за маю памылку, нявіноўны, неразумны дзіцёнак. Хто даў мне права мучаць яго, чаго ён турбуецца разам са мною?—і ён упарта рашыў вырваць свайго сына з гэтых цяжкіх абставін. Але як? разьвесьціся? Яна ні зашто не захоча аддаць яму дзіцёнка, проста на злосьць яму не захоча. Як-жа яе прымусіць? Яна—матка. Прысудзяць плаціць ёй на ўтрыманьне дзіцёнка і кончана.

Доўга ён думаў на гэту тэму, пакуль Паўлючку не надакучыла гуляць і ён, падбегшы да бацькі, пачаў пра-

сіцца да дому. Тут толькі падумаў Сяўцоў, што пакуль развод, трэба дзе-небудзь жыць, але дамоў няма чаго было ісьці і ён зашоў у адзін дом, дзе, як ён ведаў, здавалася ў наймы кватэра і рашыў тут часова пасяліцца ў адным пакоі, ясна не ўяўляючы яшчэ сабе далейшы плян дзеяў.

Разьвязка не прымусіла сябе чакаць.

Гаспадыня гэтага дому была добра знаёма з яго цёшчаю, ведала і дачку і ўсю гісторыю яе жыцьця, а пагэтаму, не падаўшы выгляду, што ведае Сяўцова, зараз-жа пабегла да прыяцельніцы і паведала, што муж яе дачкі наняў у яе пакой, дзе і будзе цяпер жыць разам з сынам. Тая яшчэ нічога ня ведала і ў сваю чаргу пайшла к дачцэ, засьпела яе ўсю ў сьлязах, пабітую і зьняважаную і параіла зараз-жа бегчы туды і патрабаваць, каб ён зьвярнуў ёй сына, а сам—як сабе хоча. Але яна ўсё-ткі спадзявалася, што ён абдумаецца і вернецца, бо не захоча кідаць дзіцёнка, а яна ўжо прымусіць яго прасіць у яе прабачэньня за ўсё здарыўшаеся.

Калі яна ўвайшла ў пакой, Сяўцоў карміў сына з лыжачкі і ня мог зразу павярнуцца, а пагэтаму раптам уздрыгнуў, пачуўшы яе злосны голас і плойму папрокаў, сьлёз, дзе разабраў толькі адно—давай сына.

Ён ускочыў. Хвіліну глядзеў на яе, як-бы не разумеючы, што яму тут зрабіць і адчуваючы, што розум яго губляецца, потым глянуў на дзіцёнка, дзікім поглядам азірнуўся вакол і схапіўшы з кута нейкі жалезны лом, з усяе сілы ударыў яе па галаве.

Яна перапынілася, нязграбна ўзмахнула рукамі, прысела, і нейк бокам завалілася на падлогу. Кроў шырокай хваляй заліла пакой.

Ён стаяў як скамянелы, пакуль зноў не пачуў громкі плач дзіцёнка. Тады ён узяў яго на рукі, выйшаў не сьпяшаючыся, як-та мімавольна запёр дзьверы, выняў ключ і паклаў у кішэню. Ён ішоў, сам ня ведаючы куды. Паўлючок заціх і, зморany, спаў, прыхінуўшысь да бацькавага пляча.

Рантам Сяўцоў спыніў крокі: ўвесь вужас яго учынку стаў перад ім. «Што я зрабіў?»—задаў ён сам сабе страшнае пытаньне і адчуваў, што ня можа адказаць на яго, ня мае сілы, што ён зараз звар'яцее. Ён добра ведаў, што хутка ўсе пачуюць аб гэтым здарэньні, зарыштуюць яго, будуць судзіць, ён будзе пакараны па закону. Але ня гэта пужала яго. Ня думаў ён і аб дзіцёнку, з-за якога зрабіў гэта злачынства, а ведаў толькі, што сілы яго пакідаюць, што розум губляецца, яму трэба хутчэй пачуць людзкі голас, трэба выкласьці каму-небудзь сваю пакуту, каб хутчэй атрымаць належачую кару. Тады яму палягчэе. Каму-ж? І ў запаленай галаве мільганула: «а партыя? Пайду, скажу ўсё, няхай судзяць як хочуць. Каб хутчэй толькі», і ён амаль што пабег, як-бы баяўся спазніцца. Сустрэчныя зьдзіўлена пазлядалі на нейкага мужчыну з дзіцёнкам на руках, з бліпчэўшымі вачмі і зьбялеўшым, як у мерцьвяка тварам.

У такім выглядзе ўваліўся ён у габінет сакратара укому партыі, дзе яго ўсе добра ведалі і любілі, як добрага партыйца і працаўніка. І калі ён прыдушана вымавіў першыя словы—«таварышы, карайце мяне, я забіў жану», а потым паведаў ім усю сваю сямейную драму, увесь боль, усе мукі свайго хворага сэрца—яны аслупянелі...

Былі прыняты належныя крокі.

---

Праз два тыдні ў камеры нарсуда разьбіралася яго справа. Народу было шмат. Сяўцоў сядзеў і бязуважна слухаў, як-бы гэта не да яго датычылася. За гэты час ён добра ўявіў сабе ўсё здарыўшаеся і падрыхтаваўся да самае горшае кары, бо адчуваў сябе нязьмерна віноўным. Таксама бязуважна аднёсься ён да чытаньня прыгавара, пакуль яго не абудзілі заключныя словы: «але зьвяртаючы увагу на яго пролетарскае пахаджэньне, заслугі прад рэволюцыяй і выключныя ўмовы, у якіх зроблена злачынства, а таксама на яго шчырае прызнаньне ва ўсім... суд лічыць яго апраўданым».

Ён ўстаў, правёў рукой па вачах... Побач стаяў Паўлуша і трымаў яго за руку.

# НА УСХОД!

Пъеса ў I дзеі **С. МУЗЫКІ.**

АСОБЫ:

**Хаім Шварц** — контрабандыст, гадоў 32.

**Энта** — яго жонка, гадоў 26; энэргічная, прыгожая кабеціна.

**Фэлікс Жук**, **Сымон Пакля** — важакі партызанскага атраду.

**Паручнік** — афіцэр польскай пагранічнай варты.

**Малады жаўнер**, **Стары жаўнер** — з пагранічнай варты.

**Хлопчык — гадоў 7.**, **Дзяўчынка — гадоў 3** — дзеці Энты; хлопчык ад першага мужа.

Рэч адбываецца на мяжы з Польшчаю ў наш час.

СЦЭНА:

Дзікі, заглохшы садзік каля хаты Хаіма, але вельмі прыгожы сваёй дзікасьцю, асабліва ў асьвятленьні ўвасходзячага месячыка.

Зьлева — хата з невялічкім ганачкам з 2-ма ўсходамі.

Пры адчыненьні заслоны на сцэне Энта, яна сядзіць на ганку на лавачцы і Сымон стаіць ля ганку на зямлі.

Энта. Я колькі раз вам казала, што гэтага ня можа быць, што гэтага не павінна быць і ніколі ня будзе.

Сымон. (горача) Але чаму? чаму?

Энта. І чаму ня раз казала: бо вы маеце жонку, у мяне—ёсьць муж; дзеці і ў вас, дзеці і ў мяне.

Сымон. Жонка, дзеці, муж... Але ці я кахаю сваю жонку, альбо ты свайго мужа?

Энта. Але, кахаю.

Сымон. Ня лжы. Памятаеш, сама ты мне казала гісторыю твайго замужства, цяжкія варункі пасьля сьмерці першага муж змусілі цябе выйсьці за Хаіма замуж. А цяпер, ці здавальняе цябе, тваю натуру, твае запатрабаваньні лёс самкі ў самца-мужчыны? І толькі каб гэта. Ці твая істота не протэстуе, ня мучыць цябе, што мусіш быць памочнікам у працы Хаіма? Вядома, што гэта так. Далей: што ты тут дасі сваім дзецям? Чаму навучацца яны?

Энта. (З больлю ў голасе) Нікажы, нікажы... як, балюча адчуваць праўду ў тваіх словах!..

Сымон. Мы павінны выхаваць сваіх дзяцей так, каб ніколі не стыдаліся іх, не чырванелі за іх учынкі. Дзеці павінны быць нашаю зьменаю ў вялікай працы, якую мы распачалі. І гэта мы зможам—будучы разам.

Энта. Разам?.. Як-бы я хацела быць з табою разам, але... стаць перашкодай, разьбіць жыцьцё другога, не... не магу... баюся... Паслухайце маёй рады і вярніцеся да жонкі...

Сымон. Гэтага ня можа быць. Мы людзі розныя. Як і ты з сваім мужам.

Энта. Дзеля дзяцей, патрэбна вярнуцца к жонцы...

Сымон. Ці патрэбна гэта ім? Ці будуць удзячны яны мне і матцы, што мы штучным супольным жыцьцём сапсуем іх, іх погляды, іх істоты. Калі мы цяпер кахаем сваіх дзяцей, то тады будзем ненавідзець іх. Матка—за тое,

што яны зьвязалі ёй рукі, а я—што яны, мае родныя дзеці, сталі на дарозе майго шчасьця. Нарэшце, я кахаю цябе больш свайго жыцьця, сям'і і дзяцей, каб дзеля дзяцей сваіх адмовіцца ад цябе. Энта, родная мая, паслухай мяне, пойдзем са мною разам. Пойдзем у іншыя месцы. Мне тут болей заставацца нельга—могуць злавіць. Пойдзем да нас у атрад, будзем разам змагацца, працаваць, самі будзем будаваць свае ўласнае шчасьце, і мы будзем шчасьлівы. Энта, ці згодна ты?

Энта. А як дзеці нашы? Кінуць бяз догляду?

Сымон. Праўда, цяжка будзе ім жыць ўва ўмовах партызаншчыны, але за тое яны з маленства навучацца змагацца. У мяне ёсьць цётка старэнькая—аддадзімо на час ёй, яна іх будзе даглядаць ня горай нас, а мы час ад часу наведваць іх. Энта, так, знача, згода! Дай руку, родная...

Энта. Чакай... А ці зможаш ты замяніць матку сваім дзецям, ці я змагу быць ім маткаю? як і ты, ці будзеш ты бацькам маім дзецям. Ці будзеш ты любіць іх? Ты цяпер кахаеш мяне і табе здаецца гэтак, а пасьля...

Сымон. Не, родная, не здаецца. Я мысьліў аб гэтым многа раз. І напэўне кажу—змагу і буду. Мы навучым іх быць добрымі сынамі працоўнага народу.

(за сцэнай чутны галасы)

Энта. Цсс!.. Хаім ідзе... Ідзі адгэтуль... другім разам пагутарым... (устае і хоча ісьці).

Сымон. Яшчэ хвілінку... Зноў мы ня скончылі нашай размовы, зноў я ня ведаю, што мне рабіць... (з роспаччу) Энта, ня муч мяне, скажы, ці згодна ты пайсьці са мною... туды ў лес для супольнага змаганьня, працы і дзеля шчасьця... Энта!..

Энта. (дае яму руку) Добра... Пойдзем...

Сымон. (моцна цалуе яе руку; Энта вырываецца і ідзе ў хату) О, як я яе кахаю!.. Хутчэй-бы адгэтуль! А там разам з ёю... Эх!.. (радасна-усхваляваны ідзе на спатканьне уваходзячым)

(уваходзяць Фэлікс і Хаім)

Хаім. Мяне зусім ня цікавіць куды вы йдзеце, чаго, што вы робіце. Мяне больш цікавіць тое, як вы грошы плаціце, і пакуль што я на вас крыўдаваць ня маю чаго.

Фэлікс. Ня верыцца нешта—каб ты ніколі не замысьліўся над тым, чаго мы тут і што мы робім!

Хаім. Не мае гэта дзела. А што жывеце ў мяне, дык да мяне шмат хто заяжджае і нейкі час жывуць пакуль свае справы зробяць. Я да спраў іх не датыкаюся. (з хаты выходзіць Энта, каб зьняць з плоту хустку). Энтэ, дай шаноўным панам зьесьці чаго-небудзь, пакуль ніякай апаскі няма.

Энта. Прашу ў хату, я ўжо прыгатавала. (ідзе ў хату)

Фэлікс. З вялікай прыемнасьцю павячэраю. Ідзем, Сымон. (ідзе з Сымонам у хату).

Хаім. (адзін) Хе!.. Хіба я ня ведаю, якія вы зьвяры. Я-б вас хутка прыстроіў дзе трэба, каб хацеў, толькі вось.., прыбытак ад іх добры:—па дзесяць злотых у дзень... Дый што маёй хаце і што мне да іх?.. Партызаны, агітатары, комуністы... Ихэ! Мая справа малая—узяў грошы за начлег, за ежу, а іншае—не мая справа. (садзіцца на ганку) Але ўсё-ж цікава, што з усёй валынкі гэтай будзе. На крэсах, як у гаршку варыць. Гэ!

(увах. 2 пагранічнікі)

Ст. Пагранічнік. Як семаш, пане жыдзе. Давай хутчэй «перцувкі» альбо «познаньскэй» бутэлькі са дзьве, каб было чым пагрэцца на варце, а то ночы халодныя, не дарма восень надыходзіць. (Хаім ідзе ў хату і выносіць дзьве бутэлькі гарэлкі) Ну, і служба цяпер пайшла, проста жыцьця няма. Кожны дзень аблавы, вобыскі, арышты, растрэлы... А ўсё праз гэтых комуністаў праклятых! Гэтак і швэндаюцца туды і назад праз граніцу. Потым партызанаў наплодзілася, што ні хата дык бандыцкая мярлога. А ў гарадох што робіцца? Рабочыя бастуюць, сярод жаўнэраў тож не спакойна... цьфу!.. Каб гэта мая ўлада была, я ў момант парадак навёў-бы: перш-на-перш—узмацніў-бы па-

сты, замест аднаго што маецца—два-тры, конную варту узмацніў-бы, сетку сакрэтнікаў пашырыў-бы... А то—на два кілёмэтры адзін пост.

Мал. Пагранічнік. Супроць каго вы гэтак узброіцца хацелі-бы?

Старшы Пагранічнік. Як супроць каго? Супроць бандытаў, супроць комуністых!

Мал. Пагранічнік. А хто яны? Гэткія-ж людзі, як і мы. З іх большасьць рабочых і сялян, значыць, гэткія самыя бедакі як і мы.

Ст. Пагранічнік. Ты, малакасосе, мне гэткіх рэчаў не кажы, ня то... (пагражаючы гэст) альбо сам заб'ю, альбо адразу, ў пастарунак*) адвяду. Бедакі!.. бач, якія словы..

Мал. Пагранічнік.—Няма за вошта забіваць,—праўду кажу. Раней я гэтак сама мысьліў, як і вы, а калі прыгледзеўся да ўсяго, што робіцца, то лічу, што шмат мы мыляемся на конт комуністых.

Ст. Пагранічнік. (моцна) Досыць аб гэтым кажу! (да Хаіма) Маладое-дурное!.. Ну, ідзем, а то засядзеліся. Шчасьлівааставацца!.. (выходзяць, за імі ідзе Хаім).

[Нейкі час сцэна пустая, потым з хата выходзяць Энта, Сымон і Фэлікс)

Сымон.—Калі ласка, гаспадынечка, схадзіце ў вёску і даведайцеся, ці можна нам перабрацца туды на кватэру. (паціху) І наогул прынось усе навіны.

Энта.—Добра праз паўгадзіны буду тут. (выходзіць)

Фэлікс.—(паціху, але цьвёрда да Сымона) Слухай, ты!.. Калі ты пакінеш кіснуць і рымзаць?... Праўда, яна прыгожая, разумная кабеціна, але гэтак быць закаханым—не выпадае. Ты цяпер такім зьзяючым выглядаеш, і пэўне такі шчасьлівы, што аб шмат чым забываеш... Мы людзі працы і справы... Нам ня можа губіць час у ружовых марах аб каханьні, аб асабовым шчасьці... У нас ёсьць пакуль што адна справа, якой мы ня маем права здрадзіць, справа цэлае клясы рабочых і сялян.

*) Пастарунак—аддзяленьне жандармерыі.

Сымон.—Ведае, браце, усё ведаю. Але, зразумей мяне, Фэлька, што я ведаю і тое, што ніякія справы, нішто-нішто без яе ня вабяць мяне. З ёю-жа усё што хочаш буду рабіць. Сілы ў мяне шмат ёсьць і гэта сіла—ў ёй. Калі чую яе голас, гляджу ў яе вочы...

Фэлікс.—Кінь, салодасьць гэтую: вочкі, ножкі... жанчыны гэткіх ня любяць. Кахаеш яе і добра—навошта аб гэтым заўсёды гаварыць і масьлянымі вочкамі глядзаць на яе?

Але годзі аб гэтым, давай ляпей аб справе пагаварым. Першае—што ты мысьліш рабіць? Цябе паліцыі шукае, 10.000 злотых абяцае за тваю галаву, а па другое—мяне вельмі трывожыць асоба нашага гаспадара Хаіма. Мне здаецца, што ён чалавек не надзейны. І калі даведаецца хто ты—захоча зарабіць.

Сымон.—Так, трэба выбірацца ад гэтуль. Задалі часу тутэйшым панам—і годзі. Пойдзем к іншым яснавяльможным прыяцелям у госьці.

Фэлікс.—А я мысьлю, што табе лепш уцякаць ад гэтуль у СССР. Цябе ўжо тут добра ведаюць, схавацца цяжка. А там ты ў безапасцы будзеш.

Сымон.—Эх, як бы я хацеў туды на ўсход, да сваіх!..

Фэлікс.—Учым-жа справа—валі.

Сымон.—Сардэчныя справы перашкаджаюць... Каб Энта са мною пайшла...

Фэлікс.—Пойдзе, ня хныч!

Энта (уваходзячы).—Вось і я. Ці хутка?

Сымон і Фэлікс.—Нават вельмі хутка.

Сымон.—Фэлька, ідзі ў двор і затрымай чым-небудзь Хаіма, а я пагавару з ёю. Калі што-небудзь—папярэдзь.

Фэлікс.—Добра. (выходзіць за сцэну і гукае „Хаім Шварц, дзе ты?"—Голас Хаіма: „Я тут").

Сымон.—(да Энты). Ну, якія навіны?.

Энта.—Я ўсё зрабіла, што вы мне даручылі. Сягоньня можаце перайсьці ў вёску. Вам там будзе спакайней.

Сымон.—Скажа мне праўду—Хаім нічога не дагадваецца?

Энта.—Аб чым?

Сымон.—Аб усім.

Энта.—Не. Ён ніколі не дазнаецца, што я вам дапамагаю, але аб гэтым пасьля...а другі раз... калі давядзецца спаткацца... А цяпер зьбірайцеся, а я пайду прыгатую вячэру вам. Апошні раз... (хоча ісьці ў хату)

Сымон. (Хапаючы яе за руку]. Энта! родная! апошні раз хачу чуць тваё апошняе слова.

Энта. Якое?

Сымон. Я хачу пачуць яшчэ раз ці згодна ты быць маёй жонкай, ці згодна прайсьці астатні шлях свайго жыцьця са мною! Энта, ведай, што ты для мяне ўсё. Ня першы раз я табе гэта кажу. І вось цяпер, сягоньня-ж, зараз я хачу чуць твае слова. А я ведаю, ты любіш мяне і толькі баішся за лёс дзяцей сваіх. Дык чуй-жа, што я, як дзяцей сваіх люблю—буду любіць і тваіх. Усё жыцьцё аддам табе і дзецям. Ну, родная скажы...

Фэлікс. (Хутка ўваходзіць). Хаім ідзе... Ну, як?

(Сымон хутка адыходзіць ад Энты і садзіцца на ганку. Энта адыходзіць у глыб сцэны).

Сымон. Заўтра мы начуем у вёсцы.

Фэлікс. Гэта добра.

Хаім. (уваходзіць) Абход ідзе... хавайцеся... (да Энты) Ідзі правадзь іх... (Энта, Сымон і Фэлікс хутка ідуць за хату).

(пауза)

Паручнік. (і двох солдат). Ці ёсьць настаяліцы, Хаім?

Хаім. Не, сягоньня якраз нікога няма.

Паручнік. (да салдат) Ідзіце ў хату паглядзіце. Усіх у каго ня будзе легітамацыі*) затрымаць. Таксама агледзьце пуні, хлявы, склеп і іншае.

Салдаты. Розсказ,**) пане поручніку! (выходзяць)

Хаім (крыху хвалюецца). Там... нікога няма, пане афіцэр... Там толькі...

Паручнік. Хто там?

Хаім. Там жонкі і дзеці...

Паручнік. Пабачыма.... (садзіцца)

(п а у з а)

(уваходзяць салдаты, малодшы пагранічнік нешта ўглыбі гаворыць Энце, якая паказвае яму рукою за сцэну, іківае згодна галавою).

Ст. Пагранічнік. Нікога німа, пане паручнік. Тылько жона его і дзеці.

Паручнік. Можаце ісьці і каля брамы пачакайце мяне.

Салдаты. Розсказ!.. (выходзяць).

Паручнік. Слухай, Шварц, ты чытаў загад начальніка штабу ўвасходняй арміі?

Хаім. Аб чым?

Паручнік. Аб змаганьні з партызанскімі бандамі і поімцы важака іхняга Камара.

Хаім. Не, пане паручнік, ня чытаў, ня ведаю.

Паручнік. Каму—каму, а табе патрэбна было-бы яго знаць. Слухай, Шварц, давай пагаворым па прыяцельскі. Нам добра вядома, што ты кантрабандай займаешся і іншы раз прытулак даеш бандытам, ну, зразумела грошы за гэта бярэш. Толькі ці варта з гэткай апаскай працаваць, калі пры жаданьні можаш шмат грошы зарабіць бяз клопату.

---

*) легітамацыя—пасьведчаньне

**) Росказ—слухаю!.

Хаім. (хціўна) Шмат грошы? Якім чынам?

Паручнік. Ты чуў аб бандыту Камару?

Хаім. Трохі чуў.

Паручнік. Ну, дык вось, улада дае за поімку гэтага павадыра бандыдатаў Камара ўзнагароды 10.000 марок.

Хаім. Дзесяць тысяч марак?

Паручнік. Але. Гэты Камар са сваімі бандамі цяпер юціцца недзе ў нашых лясох. Працай яго рук было забойства ваяводы ў суседняй вёсцы. Нам вядома таксама, што ён хоча перайсьці граніцу. Дык вось трэба абавязкова яго зловіць. Ён мае пры сабе важныя дакумэнты, якія не павінны папасьці ў рукі бальшавікоў. Жывым, ці мёртвым ён мусіць быць у нашых руках. Ты разумееш, што я хачу ад цябе? У цябе шмат хто застаецца на начлег. Напэўне і Камар забрыдзе да цябе.

Хаім. А скуль я смагу дагадацца альбо пазнаць Камар гэта ці не? Ён жа мне гэтага ня скажа, калі маецца гэткі загад. (уваходзіць Энта і прыслуховываецца да гутаркі).

Паручнік. Можна і так здагадацца, а потым ён, па чуткам, мае другую клічку „Паклі“.

Хаім. Пакля?!

Паручнік [жвава] А што? Быў?!

Хаім. Э... э... не... ня быў... але...

Паручнік. Але што?

Энта. (выходзячы) Добры вечар, пане афіцэр! (да мужа) Чаму пана ня просіш у хату? Мо гарбаткі, паночак, выпілі-бы?

Паручнік (нездаволена) Дзякую, не хачу. (да Хаіма) Ну, так ты, Шварц, не запамятуй аб тым, што я табе казаў. (выходзіць)

Энта. Аб чым ён казаў?

Хаім Ды так.., справа адна маецца... добры гешэфт... 10.000 злотых можна зарабіць...

Энта (быццам ня ведаючы нічога) Дзесяць тысяч злоттых?! Якім чынам?

Хаім (падыходзіць да яе, ціха гаворыць) Паліцыя шукае аднаго бандыта, Камара... і за паімку яго дае 10.000 злотых... Гэты самы Камар цяпер у нас... гэта Пакля гэты...

Энта Таа-к!.. Ну, і што хочаш зрабіць?

Хаім Трэба паручніку сказаць. Эх, жонка, вось калі мы з табою зажывом. Кіну кантрабандай займацца... выедзем ад гэтуль ў нейкі горад, адчынім кафэ... Трэба пайсьці сказаць на пастарунак.

Энта (нешта намысьліўшыся) Чакай... А мо' паручнік ашуквае... Ці ты чуў аб гэткім загадзе?

Хаім Я ня чуў...

Энта Вось бачыш. Не сьпяшайся. Мо' толькі згубіш заработак.

Хаім Праўду кажаш... Трэба праверыць... Ну, цяпер і пайду ў Ляды, пэўне ўжо шчаціньне прывезьлі, трэба прыняць. А ты тут даглядай за імі, каб не праміргаць.. у выпадку чаго, сама дай знаць паручніку. Бывай! (выходзіць)

Энта (хвілінку стаіць замісьліўшыся) Вось... яно... апошняе слова... Жыць са здрайцаю?.. за грошы прадаць сваё пачуцьцё?.. не! Хай будзе, што будзе!.. (хутка ідзе ў хату і праз момант варочаецца з Сымонам)

Сымон Што здарылася?.. Ты з'ірытавана...

Энта. Любы, каханы, скажы шчыра, ці кахаеш ты мяне, ці будзеш ты памочнікам маім у працы, у жыцьці?..

Сымон. Энта, хіба ня ведаеш, хіба ня бачыш?..

Энта. Добра... Цяпер няма часу.. Ідзем на ўсход!.. Ідзем у краіну свабоды, ідзем у СССР! Хутчэй!.. бо зараз прыдуць за вамі... Хаім здрадзіў вас... Хутчэй!..

Сымон. Здрадзіў?.. Тады сьпяшаймся!.. Бяры дзяцей!..

Энта. Кажаш дзяцей ўзяць? Любы, дзякую табе за гэта (моцна цалуе і бяжыць ў хату і зараз жа варочаецца з дзяцьмі Фэліксам.)

Фэлікс. Што з вамі?.. Што сталася?.

Энта. Вас здрадзілі.. Сымону трэба ўцякаць.. Ідзем.

Фэлікс. Так вось яно як? Куды-ж вы?

Энта Туды!.. усход праменьнямі зіяе! Ідзем разам.

Фэлікс. Не я яшчэ тут пабуду.. Сымону-ж праўда, нельга аставацца.. Ідзіце працуйце і дапамагайце нам, астаўшымся тут. Ідзіце не марудзьце. Счасьліва! (моцна цісьне рукі і нікне ў цемнаце)

Энта Ідзем.

Сымон. Ідзем, каханая! Да шчасьця, волі! У краіну працы і свабоды!.. (абымае яе)

(Малюнак: Энта і Сымон, паперадзі іх дзеці. Групу асьвятляе месячык нежнымі праменьнямі)

**ЗАСЛОНА.**



Карлі Кагановіч.

## Купчастая рунь і выбоі.

Заіскрыла сонца-вір агню...
Буралом спаліла з гольлямі!
Зьнiклi хмары !... пад чырваньню
Усе прасторы сталі голымі.
А сягоньня-чутны водгукі:
—Нам расьці, дык мала дня!
Толькі тут узьняцца мог такі
Волат лес—наш Маладняк.

Міхась Чарот

За паўтары гады сваёй працы Калінінская філія «Маладняка» змагла нашчупаць крохкія храсткі літаратурнага маладняка на абшарах акругі.

К сёняшнему дню гэты літмаладняк вырас, падцягнуўся і загусьцеў буйнай купчастай руньню. А. Вігура, А. Валошка, С. Музыка, Я. Міхневіч, А. Карачун, Я. Гоманаў, З. Астапенка, С. Анціпенка, Ю. Таўбін, Я. Панамараў, А. Дуда, Н. Чубакоў, В. Радчанка, Я. Панцялееў—вось гэта буйна-купчастая рунь.

Працэс росту таварышоў, калі прасачыць, адбываецца досыць шпарка і ў далейшым ён павінен будзе паступова паглыбляцца. Працэс росту выклікае сабою і другі працэс-адпаданьня, адсеіваньня менш здольных. Больш здольныя застануцца, акрэпнуць і аформяцца ў сапраўдных поэтаў і пісьменьнікаў. Гэта зьявішча зусім натуральнае і яго ня трэба баяцца: гэта паказвае, што організацыя (філія) расьце якасна. Сябры нашых маладняцкіх груп павінны сур'ёзна аднесьціся да гэтага працэсу і сваечасова рэагіраваць (адклікацца) на яго: трэба лячыць таварышоў заххварэўшых вершаманіяй і прозамараньнем, адначасова заахвочваючы, дапамагчы расьці больш здольным.

Ня ўсе вышэйпералічаныя таварышы зьяўляюцца членамі «Маладняка». Большасьць іх-толькі сябры гурткоў (студый) маладняцкіх. Перш чым стаць запраўднымі маладнякоўцамі, яны павінны ў гуртках апрацавацца, прайці стадыю вучобы на літаратурным лемантары, каб стаўшы запраўднымі членамі «Маладняка» яны дапамагалі партыі і савецкаму грамадзянству тварыць новую **(пролетарскую па зьместу)** культуру.

У гуртку будучы маладняковец павінен папрацаваць над сабою усебакова. Патрэбнасьць гэтага кожны студыец павінен адчуць востра, як адчувае патрэбнасьць есьці, павесяліцца, спаць і г. д. Трэба кожную хвіліну карыстаць, трэба цаніць час на вагу золата: пройдзе і тады позна будзе.

Пры кожнай працы, пры выкананьні заданьняў мы заўсёды ясна бачым, ведаем тыя шляхі, тыя спосабы з дапамогай якіх мы будуем выконваць заданьне. Якія-ж шляхі асноўныя ў літвучобе студыйца-маладнякоўца? Іх два.

## I.

### Барацьба за політ'адукацыю, за культурны рост.

Я прежде всего-член партии,
А стихотворец-потом...

**Ал Безыменский**

У сучасны момант «остро поставлен вопрос об об учебе, о расширении знаний, о культурных навыках, **о политической установке.** »*) (курсіў мой **К. К.**) І яшчэ: «...**надо вжиться и сердцем и помыслом войти в новую общественность.** Остальное-техника, стиль, форма-прыложиться...»**)

І гэты зусім панятна, зразумела. Някультурны чалавек ня зможа шырока паставіць пытаньне, глыбока заглянуць у яго сутнасьць. Без марксыцкае меркі, без марксыцкага падыходу ды пытаньня нельга зрабіць правільнага аналізу ў бальшавіцкай дусе. Бяз пільна-уважлівага наглядаеньня, упіканьня і удзелу ў нашым бягучым жыцьці-нельга найці другіх здаровых крыніц дзеля свае творчасьці.

Гэта ставіць неабходным у першую чаргу працаваць над сабою. Ня імкнуцца больш напісаць вершаў, а лепш адзін-два напісаць, але карысных.

А што ў гэтым напрамку ёсьць сур'ёзныя прамахі ў поэтаў Калінінщчыны-дык гэта факт. Вось дзеля прыкладу, што пісаў некалькі месяцаў таму назад П. Другачонак.

...Кепска жыць было
У вёсцы бедняком,
А цяпер зямлю нам далі
І зраўнялі з кулаком.

---

*) „Большевик“ (орган ЦКВКП) № 11, 1926 г. артыкул: „О рабочем писателе“

**) „Об Искусстве“—А. ВОРОНСКИЙ.

Дзе тут веданьне політыкі партыі і ўлады ў адносінах бедняка і кулака ў вёсцы? Яго тут не адчуваецца! А гэта ў далейшым можа пацягнуць да сур'ёзных вынікаў, да неразуменьня правільнай лініі па сялянскаму пытаньню. Такія вершы (і падобныя да іх) ня толькі не карысны— яны шкоду робяць!

Пішучы аб цяжкім мінулым беларуса Я. Дзьмітрачэнка піша:

... І ніколі ня бачыў ён волі,

Бо кругом **яго бор акружаў**.

Выходзіць, што вінават у цёмнасьці нашага мужыка быў ня царскі, драпежны уклад, а бор. Тут нават, каб узяць слова бор, як сымбаль царызму, дык і то будзе няправільна: царызм гняў, ціснуў мужыка, а ня толькі не даваў разгарнуцца яму.

Відаць, што аўтар ня ўжываў соцыёлёгічнага мэтаду пры ацэнцы гэтага зьявішча ў нашым мінумым, што аўтар сур'ёзна не падумаў, альбо што ў аўтара не хапіла сіл правільна падыйці да пытаньня.

Можна было-б яшчэ прывесьці шэраг прамахаў, памылак Міхневіча, Чубакова, Радчанкі (які карыстаючы народную творчасьць ухіляецца ў бок нездаровасьці. Чытай яго „Песьню“), але за недахватам месца досыць і гэтых.

Аб чым гэта сьведчыць?-Аб тым, што ў таварышоў прабіваюцца памылкі, якія неабходна своечасова выжыць. Трэба выхоўваць сябе ў здаровым марксыцкім дусе, трэба узброіцца гэтым вострым і верным аружжам (марксыцкім мэтадам, чуцьцём), каб у далейшым ня прыйці да цяжка—паправімых памылак.***)

## II.

## Барацьба за ауладаньне мастацкімі прыёмам пісаньня, формай.

Ведай, брат малады, што ў грудзях у людзей
Сэрцы цьвёрдыя, быццам з каменьня.
Разаб'ецца аб іх слабы верш заўсягды,
Ня збудзіўшы сьвятога сумленьня.
Трэба з сталі казаць, гартаваць гібкі верш,
Абрабіць яго трэба з цярпеньнем.
Як ударыш ты ім, ён, як звон, зазьвін'ць.
Брызнуць іскры з халодных каменьняў.

М. Багданавіч „Пясьняру“)

***) Дзеля прыкладу, Пушча Язэп, усё больш і больш ухіляецца ад бурлівага колектыву „нюняе“ мінорныя песьні.

Гэты завет пакойнага поэта павінны запомніць маладыя.

...«не надо вдаваться в крайность и держаться вульгарного убеждения, что содержание в художественной литературе—все, а форма ничего не значит. Форма значит очень многое: без нее нельзя написать **настоящее художественное произведение**»****) (курсіў мой . **КК**.).

У гэтых адносінах не заўсёды падцягваюцца нашы маладыя-студыйцы: ня досыць думаюць над здабыцьцем навыкаў у гэтым напрамку, а яшчэ горш: мала працуюць. Праўда, гэта ня так лёгка, але-ж нічога лёгка не даецца! Вопыт Мсьціслаўскае групы даў спадзейныя выніні: шэраг таварышоў вырасла (Гоманаў, Астапенка, Таўбін і інш.) як з формальнага боку, так і з боку зьместу.

Многія нашы поэты думаюць, што калі няма вобразаў, дык верш і не мастацкі, слаб з боку формы. Няпраўда, не адны вобразы робяць верш мастацкім...«Умелы падбор эпітэтаў, нязьбітая рыфмоўка, правільная копозыцыя—вось што патрабуецца ад поэты з боку формы»,—піша С. Добруш.****).

Можа верш быць і зусім бяз вобразаў, але высокамастацкі.

Ши**П**енье **П**енистых **Б**а**К**а**Л**ов
И **П**ун**Ш**ы **ПЛ**амень **Г**о**Л**у**Б**ой...

Гукі **п, о, к, л**, перадаюць шчоўканьне коркаў з бутылак, а гук **ш** шыпеньне ўсыпенёнага віна.

**Б**росал **В Н**е**В**е**Д**омые **В**о**Д**ы
**СВ**ой **В**етхій **Н**е**В**о**Д**...

Гукі **в, н, д** часта паўтараюцца і надаюць мілагучнасьць вершу.

Яшчэ побач з напорнай вучобай, працай над формай заўважваецца „перавучоба», перагіб у бок фармалізму. Гэта ўжо таксама хвароба. Калі аддаецца перавага форме, тады форма забівае зьмест, ад чаго твор траціць сваё ідэёвае назначэньне.

А факты такія ў нас ёсьць: ну хоць бы верш Гоманава «Засыпявай», альбо Карачуна «Усхвалявал‌іся думкі ня проста». Верша можна напісаць бяз лішніх выкрутасаў, бяз «заумий», але калі будзе выбрана сочная, сьвежая, цікавая тэма, верш будзе апрацован з мастацкага боку—ён будзе рабіць вялікую справу, будзе выклікаць уражаньне, а моцнае ўражаньне—першы крок да выхаваньня чалавека.

****) „Большевик" № 11, 1926 г. Артыкул: „О рабочем писателе".
*****) „Маладняк Аршаншчыны" № 4, 1926 г..

## „МАЛАДНЯК КАЛІНІНШЧЫНЫ“—№ 3-4,

**1926 г., стр. 96 Кошт 30 кап Выданьне Калінінскай філі „МАЛАДНЯКА“**

Калінінская акруга, наогул лічыцца аднэй з першых мясцовасьцяў БССР па росту культурных патрабаваньняў насельніцтва, а таксама і па інтэсіўнасьці беларусізацыі.

У прыватнасьці—там досыць добра пастаўлена выдавецка-літаратурная праца, як літарацкага аб'яднаньня—філіі „Маладняк“—так і акруговага таварыства краязнаўства.

Напрыклад—пэрыодычны „Маладняк Калінішчыны“, як на мясцовыя ўмовы, выдаецца, надта дакладна і стала.

Рэцэнзуемы часопіс мае ўласьціва тры разьдзелы: „Політычны“, „Літаратурна-мастацкі“ і „Разьдзел крытыкі“.

Першы разьдзел шмат абгаварваць ня трэба.

Два артыкулы: Модэля„—Ленін і моладзь“ і Каменскага: „XIV-ы партзьезд УсеКП(б) аб працы ЛКСМ“ маюць сваю вартасьць.

Цікавы, кіраўнічы для рабоча-сялянскай моладзі зьмест.

Зразумела, лёгкая мова з дадаткам каштоўных вытрымак з твораў Леніна і пастаноў XIV зьезду.

Але, здаецца, што прысутнічаньне інфармацыйнага артыкулу, ну хоць-бы—аб становішчы ангельскае забастоўкі, альбо здарэньнях у Польшчы—не перашкодзіла-б агульнаму ўражаньню ад разьдзелу...

На літаратурна-мастацкім разьдзеле, паколькі ён складаецца ўсёткі з 13 твораў, прыдзецца затрымацца больш...

. . . Апавяданьне Ал. Валожкі—„На бацькаўшчыне“.

Цікава... Малады, пачынаючы бэлетрысты, як відаць—даволі добра ўладае формаю.

Наконт-жа зьместу—зусім ня тое...

Партызаншчына, паны-мужыкі, пажар маёнтку, паўстаньне—доколькі яшчэ гадоў будзе гэтым дыхаць беларуская цяперашняя літаратура?.. „Грышка—Сьвінапас“, „Ваўчаняты“, „Два“, „Чырвоныя кветкі“ і іншыя.

Няўжо ў сучаснай вёсцы, альбо ў беларускім прамысловым горадзе, нельга знайсьці сюжэту, тэмы дзеля творчасьці

Надзычайна добрае ўражаньне застаўляюць вершы Яз. Пацабеда —„Маладая Беларусь“ і „Маруся—студэнтка КомВуза“.

Паэта—„сын русакадруга дню“ пачынаючы канчаткова афарбоўваюцца ў належны колер мастака—такі льлецца „каскадам бурлівасьці буйнай“. У яго „сёньня песьня зьвініць—нямоўкне“, „заклікае вірлівыя дні“. І разам з пясьняром захочацца сказаць“.

„Няўбачыць бабулькаю мне на растаі
„Маладое маёй Беларусі!“..

Крыху не да месца прылеплена байка Крапівы.

Слабаваты, з боку формы, верш Ал. Карачуна. (Апавяданьне „Заваёванае“ удалося яму лепш.). Астатнія вершы—толькі „пробы пяра“ пачынаючымі паэтамі і гутарыць аб іх зараз за недахопам месца—не магчыма. Прыгожы абразкі Аўгіньні Вігуры—„Пад праменьнямі гарачага сонца“ ...Радасьць працоўнага жыцьця . „Юнацкае каханьне“ І—урэшце кавалак „новага быту“ на вёсцы: чырвонае вясельле.

Здаецца—навошта прасьцей?.. А намалёвана так, што цікавішся і чытаеш!..

Асабліва каштоўным творам у гэтым разьдзеле зьяўляецца п'еса С. Музыкі „Купальле“.

Барацьба „старога“ з „маладым“ у вясковых умовах, з удзелам гораду—даецца ў вельмі захапляючай вопратцы.

Слабей усяго часопіса „разьдзел крытыкі“.

Ніводнай рэцэнзіі, ніводнай кніжнай рады—„што чытаць“ і г. д. Адных практычных паказаньняў маладняцкім гуртком“—зусім мала...

Будзем спадзявацца, што ў наступных №№ „Маладняка Калініншчыны“ гэтага недахопу будзе меней!..

(„Савецкая Беларусь“ за 12/IX—1926 г. ЮРКА ЛЯВОННЫ).

## АЛЕСЬ ДУДАР—ШАНХАЙСКІ ШОЎК.

**Выданьне ЦБ Маладняка 1926 г. 36 ст. цана 15 кап.**

Алесь Дудар вельмі маладым прышоў у беларускую паэзію... У ім з першых песень мы бачым паэта сягоньняшніх дзён. Ен ня мог, каб не захапіцца пафасам вялікай рэволюцыі. Яна ў яго творчасьці знашла сабе рамантычнае ўвасабленьне. Ен ня мог, каб песьню сваю не абпролетарызаваць, ён таксама ня мог, каб не зьмяніць традыцыйныя і так характэрныя для беларускай паэзіі вясковыя матывы на гарадзкія. Ня любіць песьня яго павольнасьці, ёй больш да спадобы рух, дынаміка. нездарма мо' і першы зборнік свой ён назваў „Беларусь Бунтурская„' Яго „Беларусь Бунтарская“ да мэты ня хоча ісьці скрозь туманаў, а „Сонечнымі сьцежкамі“.

Уважліва перачытваючы зборнікі вершаў Алеся Дудара, мы заўважваем, што шмат ён працуе над тэматыкай. Ен перайшоўшы ад сялянскай тэматыкі да гарадзкой, ставіць пытальнік над яе далейшым разьвіцьцём. І ў чым-жа знаходзіць вырашэньне? А вось: даволі беларускую паэзію ўціскаць у этнаграфічныя межы, для яе бацькаўшчынай павінна быць уся плянэта. Гэта ён пачынае ажыцьцяўляць і першай спробай зьяўляецца паэма. „Шанхайскі шоўк“. Сюжэт для паэмы навеены змаганьнем кітайскага пролетарыяту (кулі) за вызваленьне з пад ангельскага капіталу.

> Колькі іх, колькі! І ўсе як адзін.
> І ўсе—
> толькі здань чалавека
> з голай сьпіны гэтак страшна глядзіць сьлед ангельскага стэка.

Вось гэта соцыяльная няволя і няпраўда натхнула напісаць Алеся Дадура сваю арыгінальную поэму ў беларускай літаратуры. Ці ўдалося А. Дудару справіцца з тэмай? Бязумоўна ўдалося. Ен даў не дакучлівую агітацыю, а паказаў нам вытрыманыя характары: з аднаго боку комуністага кітайца Чы-Ванга, з другога—матроса ангельца Джона.

Па эмоцыянальна-мастацкай сіле мы не знаходзім твораў аб кітайскім пролетарыяце мацнейшых і ў расейскай літаратуры (Ціханава, Веры Інбер) чым гэту поэму.

Алесь Дудар у ёй часамі дае нам даволі трапныя малюнкі і дзікай азіяцкай прыроды:

> Ад Марока да Гімалаяў
> дражняць неба жоўтыя скалы:
> ой, ня раз там зубы ламалі
> аб белыя косьці шакалы.

Нягледзячы на сваю тэматычную арыгінальнасьць гэта поэма куды вышэй стаіць за шмат якія ранейшыя вершы А. Дудара з боку мовы. Тут мы ўжо не спатыкаем русыцызмаў, небеларускай сынтаксычнай пабудовы, а гэта ўсё надае поэме значны плюс у яе стылістычнай лёгкасьці. Гэта поэма нам кажа, што творчасьць Алеся Дудара з кожным днём становіцца больш цікавай і больш разнастойнай. У далейшым для большай соцыяльна-мастацкай каштоўнасьці А. Дудар павінен больш увагі зьвярнуць на псыхалёгічны бок сваёй творчасьці і ўсё-ж не павінен забывацца, што на плянэце ён „сын маладой Беларусі“.

(„Сав. Беларусь“ за 17-ае студзеня 1926 г.)

# ЗЬМЕСТ:

## I. Палітычны разьдзел.



## II. Літаратурна-мастацкі разьдзел.



## III. Крытычны разьдзел.

